ISSN 0320-7579

№ 11/2015(1050)

# Бярозка



*пазітыўнае мысленне*

## № 11

**ПРАЦЯГ АПОВЕСЦІ АЛЕГА ЖДАНА «ПРЫНЦЭСА»**

**ПЕРШАЕ ПРАВІЛА ПІСЬМЕННІКА**
і другое правіла блогера

**ЯЎГЕН БУЛКА**
і таямніца залатых пяскоў

**НЭВІЛЫ ЛОНГБОТАМЫ**
Не бойся быць дзіваком

Малюнак Даны Цюперак,
Мінская гімназія-каледж мастацтваў

# ЗАСТАЦЦА ПАСЛЯ ЎРОКАЎ? ЛЁГКА!

# Мястэчковыя каштоўнасці

***Івянецкі музей традыцыйнай культуры прадстаўляе***



Трыпціх зрабіў з гліны ганчар Юрый Семяновіч. Ён увасобіў адну з версій падання пра Івянец, якую можна прачытаць у гэтым нумары «Бярозкі».



Драўляныя чэрці. Чырвонага зрабіў народны разьбяр Апалінарый Пупко, аўтар другога — невядомы. Гэтым фігурам больш за трыста гадоў. Раней чэрці стаялі ў касцёлах, каб назіраць за вернікамі і размяжоўваць дабрыню і зло.



Ікону ў 1939 годзе сялянцы падарылі гаспадары, у якіх яна працавала. На адваротным баку надпіс: «За добрасумленную працу». Аднойчы жанчына прачнулася і ўбачыла, што гарыць яе хата. Яна паспела ўратаваць ад пажару толькі ікону. Потым сялянка казала, што ікона яе ахоўвала.



Цытра — струнны інструмент, распаўсюджаны сярод аўстрыйскіх і баварскіх сялян XVIII стагоддзя. Цытра з фотаздымка належала Люцыі Дзяржынскай, аўстрыйцы па паходжанні.



Вазачкі, якія нагадваюць ствол дрэва, называюцца букетнікамі. Іх выраблялі ў прыватных ганчарных майстэрнях — «заводзіках» — у пачатку XX стагоддзя. Такіх заводзікаў у той час у Івянцы налічвалася каля дваццаці.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінская вобласць, Валожынскі раён, гарадскі пасёлак Івянец, вуліца Музейная, 2.***

***Падрыхтавала Наста Лявінская***




# Снег і Раўчук

Надышла зіма. З нізкіх сівых хмарак паляцелі ўніз маленькія сняжынкі, разам утвараючы Снег. І Снег гэты старанна атульваў усё навокал белай суцэльнай коўдрай. Ён кожны дзень аглядаў палянкі і кусцікі, дадаючы сняжынак туды, дзе іх, на ягоны погляд, не хапала.

Аднойчы Снег заўважыў на ўскрайку лесу маленькі гаманлівы Раўчук, які весела бег па каменьчыках і спяваў.

«Непарадак! — падумаў Снег. — Трэба хутчэй ахутаць гэтага свавольніка снежным кажушком, бо яму, здаецца, холадна».

Але сняжынкі знікалі ў вадзе, а Раўчук бег сабе далей. Тады на дапамогу Снегу прыйшоў Мароз — ён закаваў вясёлы Раўчук у моцную ледзяную кашулю. Настала цішыня. А Снегу раптам зрабілася сумна без вясёлай песні Раўчука, зноўку захацелася пагуляць з ім. Снег асыпаў Раўчук новымі сняжынкамі, але той не лавіў іх, як раней…

— Чаму Раўчук са мной больш не гуляе? Чаму не спявае сваю песеньку? — спытаў Снег у Сонейка.

Нічога не адказала яму Сонейка. Замест гэтага даслала Снегу свае самыя цёплыя праменьчыкі.

І Снег заплакаў. А Раўчук зноўку ажыў і пабег да рэчкі, весела пераскокваючы цераз каменьчыкі і ўбіраючы ў сябе ўсе тыя сняжынкі, якімі калісьці асыпаў яго Снег.

Сонейка прыпякала з кожным днём мацней і мацней, а Снег усё плакаў і плакаў, даючы пачатак мноству новых раўчукоў. І не ведаў ён, што вада гэтых раўчукоў ператворыцца ў новыя бялюткія аблокі або сівыя хмаркі. І народзіцца з гэтай вады новы Снег, зноўку выпадзе на зямлю, каб схаваць яе ад лютых маразоў наступнай зімой.

*Елізавета Саевіч*
*7 клас, гімназія № 29, Мінск*

# Геаметрыя ў нашым доме

Аднойчы настаўніца геаметрыі дала заданне знайсці дома прадмет самай прыгожай формы і сфатаграфаваць яго. Я доўга думала — і ніяк не магла выбраць. Раптам чую — гучна бразнулі дзверы:

— Сфатаграфуй нас! — просяць. — Паглядзі на нашу выдатную прамавугольную форму!

— Чым жа вы лепшыя за нас? — пакрыўджана зазвінелі вокны.

— Альбо за мяне, — дадала столь. — Я, дарэчы, самы вялікі прамавугольнік у гэтым пакоі!

— Хтосьці зазнаўся, глядзіць на ўсіх зверху ўніз. Вось і не заўважае астатніх, — ціхенька зарыпела падлога.

— Найлепшая геаметрычная форма — у нас! Трапецыя! — звонка засмяяліся цымбалы. — На ёй — 78 музычных адрэзкаў. А ножкі ў нас — роўненькія цыліндры… Сфатаграфуй нас. Мы самыя прыгожыя. Вось і гадзіннік пацвердзіць.

А гадзіннік у адказ:

— Так-так! Цік-так! Ці так, ці не так!

У спрэчку ўступілі стол і стул, тэлевізар з камп’ютарам і… стары маскарадны капялюш. Ён, лежачы на канапе, запярэчыў:

— Самая прыгожая форма — конус! У школе вядзьмарства і чараўніцтва ўсе носяць такія капелюшы. Чараўнікі таксама вучаць геаметрыю.

— Ды на што ты прыдатны?! — прамовіла шафа. — Хіба што молі на абед. Я самы вялікі паралелепіпед у гэтым пакоі. Вось і гадзіннік пацвердзіць.

А гадзіннік зноў сваё:

— Так-так! Цік-так! Ці так, ці не так!

— Вядома ж, не так! — пляснула дзверцамі секцыя. — Ды я складзена з васьмі паралелепіпедаў, выключна падагнаных адзін да аднаго. А шкло і люстэркі — у форме шасцівугольнікаў. А колькі на маіх палічках выключных прадметаў. Кнігі, да прыкладу…

Кнігі сцвярджальна зашамацелі:

— Так-так, мы таксама паралелепіпеды. І сярод нас стаіць «Геаметрыя» Шлыкава.

Посуд пачаў звінець на ўсе лады аб сваіх формах. Лінейкі, цыркулі і алоўкі спрабавалі рассудзіць спрачальнікаў, але не вытрымалі і самі пачалі выхваляцца.

І раптам усё змоўкла, і я пачула голас мамы:

— Наташа, ты спіш ці геаметрыю вучыш? Знайшла самую прыгожую геаметрычную фігуру?

Я азірнулася: усё, нібы змовіўшыся, маўчала, быццам і не спрачалася. І толькі гадзіннік па-ранейшаму выстукваў: «Так-так! Цік-так! Ці так, ці не так!»

— Знайшла! — адказала я і сфатаграфавала гадзіннік.

*Наталля Сакалянская,*
*11 клас, СШ № 43, Мінск*



## ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег нясмела
Кружыцца ў паветры
А затым кладзецца
На маю далонь.

Лёгкую сняжынку
Падхапіла ветрам,
Ціха апусціла
На зямную скронь…

***Аляксандра Пышынская,***
***7 клас, Літаратурны клуб «Пегасік», Забалацкая СШ, Воранаўскі раён***

## СЯБРУКІ І КАНЬКІ

Сябрукі — Алесь ды Янка
Сёння ўсталі спазаранку,
Узялі свае канькі
І пабеглі да ракі.

Сталі хлопцы на лядок,
Паслізнуліся і — гоп!
На лядок абодва ўпалі,
Засмяяліся і ўсталі.

Цэлы дзень яны каталіся,
А затым дамоў вярталіся.
І хоць крышачку змарыліся:
Жартавалі, весяліліся.

***Насця Шыла,***
***7 клас, СШ № 201, Мінск***

## МАЕ СПРАВЫ



Я без справы не сяджу,
У акенца я гляджу.
Калі здарыцца што дзе —
Не пакіну я ў бядзе!
Да бабулі забягу,
Крышку ёй дапамагу,
Бо старэнькая яна
І жыве зусім адна.
Сыпану курам зярнятак,
Смецце вымяту ўсё з хаты,
Дроў да печы прынясу,
Суп зварыць дапамагу,
Снег расчышчу каля ганка,
Пачытаю ёй чытанку.
Мне з бабуляй многа спраў,
Часам і не да забаў.
Я старанная дзяўчынка
І працую без упынку.
Я бабулечку шаную,
Абдыму і пацалую,
Бо старэнькая яна
І жыве зусім адна.

***Ганна Карсюк,***
***8 клас, Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён***

***Мастачка Алёна Макавецкая***



*Сачыненні пра Вялікую Айчынную вайну*
*ад вучняў 6 класа гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны, Мінск*

# Даўно гэта было і як нядаўна…

Даўно, бо за 70 гадоў вырастае, нават старэе чалавек. Нядаўна — таму што нават я, малая дзяўчынка, шмат ведаю пра гэтую вайну. А ведаю таму, што яна закранула маіх родных. І мне не ўсё роўна, бо хачу вучыцца, расці, развівацца, атрымліваць адукацыю і вельмі не хачу, каб паўтарыўся жах выбухаў, слёз, смерці, гора.

На жаль, усе мае прадзеды і прабабкі ўжо нябожчыкі, але пры іх жыцці я часта з імі сустракалася. Любіла распытваць пра іх вайну.

Прадзед Арцём дайшоў да Берліна, яму было каля 24-х. Многа ён меў медалёў і ордэнаў за ўдзел у вызваленні нашай краіны і краін Еўропы. Пражыў 98 гадоў.

Прадзед Іван быў малы, калі немцы пагналі яго ў Польшчу. Там ён быў парабкам. Каля года.

Прабабка Еўфрасіння была малалетнім вязнем у нямецкім лагеры. Было ёй 15—16 гадоў. Правяла ў лагеры 2 гады.

Бабка Марыя падчас вайны была зусім маленькай, але помніць, як жылі яны ў лесе, у зямлянцы. Гэтая бабка расказвала мне, як яе маці хавала розныя прыгожыя рэчы і хусткі ў скрыню ды закопвала ў зямлю, каб захаваць свой скарб, зберагчы «на потым».

Мая бабка, Дзякуй Богу, жывая, але яна не вельмі любіць успамінаць тую ліхую для ўсіх вайну.

У наш час нам, маладым, трэба не толькі любіць мір, але абараняць і берагчы яго.

***Ганна Страха***





# Мой прадзед

Мой прадзед Аляксандр Мікітавіч ваяваў падчас Вялікай Айчыннай вайны. Я яго бачыла толькі на сямейных фотаздымках. Ён памёр да майго нараджэння, але мама і тата мне шмат пра яго расказвалі.

Мой прадзед быў прызваны ў армію ў 1941 годзе, у самым пачатку вайны. Яму было васямнаццаць, але ўжо ў гэтым узросце яму даверылі камандаваць узводам мінамётчыкаў. Спачатку ішло цяжкае адступленне савецкіх войскаў да Масквы. Там нашы салдаты самаадданa змагаліся з фашыстамі, многія загінулі, але адстаялі рубеж. За тыя бітвы мой прадзед быў узнагароджаны ордэнам.

Калі Савецкая армія перайшла ў наступленне, мой прадзед ужо камандаваў ротай мінамётчыкаў. Са сваімі салдатамі ён удзельнічаў у вызваленні Беларусі. За ўдзел у вызваленні Мінска яго ўзнагародзілі некалькімі медалямі, у тым ліку медалём «За адвагу». Напэўна, мой прадзед дайшоў бы да Берліна, але ў баях за Брэст ён атрымаў цяжкае асколачнае раненне. Амаль год знаходзіўся на лячэнні ў ваенным шпіталі. Калі яго выпісалі, вайна скончылася.

Мой прадзед пасля вайны вярнуўся на радзіму ў Магілёўскую вобласць, гарадок Бялынічы. Там ён пазнаёміўся з маёй прабабуляй. Працаваў у ваенкамаце. Мама расказвала, што вельмі любіла, калі яе дзед апранаў ваенную форму з ордэнамі і медалямі — і яны ішлі разам на парад ветэранаў 9 Мая. Дзядуля заўсёды здымаў шапку, схіляў галаву і сціраў слязу перад помнікам тым, хто загінуў падчас вайны. Ён ведаў, якой цаной далася перамога.

Уся наша сям'я любіць і памятае майго прадзеда. Мы захоўваем яго фотаздымкі і ўзнагароды як святую рэліквію. Я лічу, што ўсе людзі павінны захоўваць памяць пра тых, хто цаной свайго жыцця абараніў Радзіму і даў нам магчымасць жыць у мірны час.

***Анастасія Нагорная***

# Подзвіг простага салдата

Вайна доўжылася чатыры гады, а раны ад яе не загаіліся праз дзесяцігоддзі. Занадта горкай памяці пакінула тая вайна. У людзей магла быць вясёлая маладосць з першым каханнем і мноствам сяброў, а потым — сям'я і дзеці. Замест гэтага яны перажылі невымоўны жах, іх душы застылі ад смерцяў родных і таварышаў, а вочы… Вочы, такія зіхатлівыя раней, на доўгі час забыліся пра тое, што такое чыстае блакітнае неба.

Праз кнігі і фільмы я ведаю, што ў тыя ліхія гады цяжка было ўсім: і тым, хто ваяваў, і тым, хто працаваў, і тым, хто апынуўся на захопленай фашыстамі тэрыторыі. Мая бабуля шмат распавядала мне пра тое, што давялося выпрабаваць нашым сваякам падчас вайны. Я ўважліва слухала яе апавяданні, з хваляваннем

разглядала фотаздымкі, якія захаваліся ў сям'і з ваенных гадоў. Яна распавядала мне, як ваяваў прапрадзед…

Крупкін Васілій Лявонцьевіч быў да вайны леснікам і вельмі трапна страляў. Пайшоў на фронт разам з мужчынамі з роднай вёскі. А паколькі добра страляў, прызначылі яго кулямётчыкам. Ішоў 1941-ы. Нямецкія войскі дабраліся да Ленінграда і акружылі яго. У жыхароў горада скончыліся прадукты, многія паміралі ад голаду. Каб выратаваць Ленінград, трэба было прарваць акружэнне. Сярод салдат, якія спрабавалі вызваліць гэты горад, быў і Васілій Лявонцьевіч.

Ішоў вельмі жорсткі, крывавы бой. У гэтым страшным баі загінула шмат салдат. І вось быў дадзены загад: адступаць. Васілій Лявонцьевіч прыкрываў адступленне аднапалчан. Ён заставаўся на сваім месцы і страляў з кулямёта па ворагах. З гэтага бою ён не вярнуўся. Дадому прыйшла вестка пра яго гібель. Разам з ім служыў сябар, аднавясковец. Калі скончылася вайна, ён вярнуўся і распавёў, як загінуў мой прапрадзед.

Прайшло шмат гадоў, але з памяці падзеі вайны не сыходзяць. І я заўсёды буду памятаць пра гераічны подзвіг майго прапрадзядулі, які змагаўся за мір на зямлі.

Вайна закранула ўсіх. Гэта наша мінулае, якое не зменіш, не выправіш. Героі тых гадоў змагаліся за нашу сучаснасць. А што можам мы? Не забываць пра гэта, быць годнымі прынесенай імі ахвяры і ствараць сваю светлую будучыню.

***Валерыя Рожанцава***

# Ваенная старонка з гісторыі сям'і

Калі марнею ад нягод
І сэрцу цесна,
Я ўспамінаю радавод
І продкаў песні.

*А. Пісьмянкоў*

Мне цікава ўзгадваць гісторыю маёй сям'і, маіх продкаў, таму што я магу распавесці сваім сябрам пра цікавыя факты.

Мая прабабуля Марыя нарадзілася ў Карэліі, але ў вайну апынулася на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. А прадзядуля Міхаіл нарадзіўся ў Беларусі, але ў час вайны апынуўся ў Карэліі, у горадзе Кемі. Прадзядуля спачатку быў памочнікам машыніста цягніка, а потым стаў машыністам. Ён дастаўляў саставы з боепрыпасамі і снарадамі да месцаў ваенных дзеянняў.

Мой прадзядуля прымаў удзел у баях, ратаваў блакадны Ленінград. Ён мае медаль «За адвагу» і іншыя ўзнагароды. Я ганаруся ім. Ён быў мужным, моцным і адважным. Я лічу, што такія людзі заслугоўваюць увагі і павагі, бо яны сумленна выконвалі сваю справу на карысць Радзімы, не шкадуючы сябе.

***Валерыя Мурашка***

# Івянецкае графства

***Некалі даўно адна паненка ехала праз балота — і з яе галавы зваліўся прыгожы вянок. Яна ўскрыкнула: «Ой, вянец!» І тут з'явілася добрая фея, якая сказала: «Я аддам табе вянок, калі пабудуеш на гэтым месцы горад». Так з'явіўся Івянец. І ў гэтым невялікім гарадскім пасёлку (тут жыве каля пяці тысяч чалавек) ёсць на што паглядзець.***





Першае, што можна ўбачыць пры ўездзе, — Чырвоны касцёл, альбо касцёл Святога Аляксея. Будоўля храма пачалася ў 1905 годзе па праекце знакамітага віленскага архітэктара Міхаіла Гатоўскага. Такіх касцёлаў у модным на той час неагатычнам стылі будавалася шмат. Але івянецкі створаны мясцовымі жыхарамі і на іх сродкі. І ўжо ў 1907-м пачаў працаваць. Падчас Вялікай Айчыннай вайны касцёл даглядалі вернікі. Дзякуючы гэтаму храм ацалеў. Пасля вайны ён стаў фондам бібліятэкі — сховішчам кніг. У 1990-я кнігі вывезлі — і будынак зноў стаў касцёлам.

Калі пойдзем далей, то патрапім на плошчу, ад якой бярэ пачатак сетка вуліц. На гэтай плошчы можна ўбачыць царкву Ефрасінні Полацкай. Яна будавалася з 1997-га па 2003-ы на месцы жаночага манастыра і драўлянай царквы. У 1943-м акупанты сагналі жыхароў мястэчка да царквы, каб пакараць іх за ўдзел у паўстанні, якое адбылося ў Івянцы раней. І тады Люцыя Дзяржынская паручылася сваім жыццём, што іванчане не маюць да гэтага дачынення, чым уратавала насельніцтва пасёлка.

З плошчы можна зайсці ў парк, дзе сіратліва стаіць бюст Фелікса Дзяржынскага, ство-



раны Заірам Азгурам. Дзяцінства Дзяржынскага прайшло ў 15-ці кіламетрах ад Івянца, і калі ў 1932 годзе вырашалі, які горад назваць Дзяржынскам, на Івянец выбар не ўпаў з-за таго, што ён у той час быў у складзе Польшчы. У парку ёсць дрэва, на якім мясцовыя майстры выразалі герб мястэчка: льва, які абазначае, што Івянец у XIII стагоддзі належаў Салагубам, з каронай на чырвоным фоне, бо гарадскі пасёлак быў цэнтрам графства.

У Івянцы ёсць музей, размешчаны ў доме, які некалі належаў мясніку. Адна з экспазіцый прысвечана ганчарству. Івянец жа здаўна вядомы як «сталіца ганчарства». Івянецкая кераміка распазнаецца па характэрным роспісе — фляндроўцы. Яшчэ ёсць зала з работамі знакамітага майстра разьбы па дрэве Апалінарыя Пупко. На вуліцы Камсамольскай у доме, дзе ён некалі жыў, таксама можна ўбачыць яго працы: міфічных істот, герояў паэм і казак.

На беразе ракі Волма стаіць Белы касцёл, альбо касцёл Святога Міхаіла Архане́ла. Яго будаўніцтва пачалося ў далёкім 1749-м. За 250 гадоў існавання аблічча храма не змянілася, толькі ў 1869-м улады аддалі каталіцкі касцёл праваслаўным, і тыя замест шпіляў паставілі купалы-цыбулінкі. У 1920-м шпілі вярнулі. У вайну ў храме жылі немцы. Калі яны захапілі Івянец, то адразу загадалі зняць з вежаў званы. Жыхары мястэчка закапалі іх у надзеі выратаваць. У 2008-м адзін звон знайшлі пад вежай. Дзе астатнія тры — невядома. Але івянчане думаюць, што званы закапаны дзесьці на беразе Волмы, і не губляюць надзеі іх знайсці. Пасля вайны касцёл працаваў як прадуктовая крама, потым як завод, і толькі ў 1990-х яго аддалі вернікам.

Нядаўна ля касцёла пабудавалі вялікую дзіцячую пляцоўку з маленькім заапаркам, у якім жывуць кролікі, розныя птушкі, авечкі і кабылка Марта. Кожнае лета ў Івянец можна прыехаць на «Музычную майстэрню» — рандэву для ўсіх, хто цікавіцца спевамі і касцельнай музыкай.

***Фляндроўка — незвычайная тэхніка роспісу керамічнага посуду. Неабпалены збан або талерка ўсталёўваюцца на падстаўвачку, якая круціцца. На пасудзіну падчас руху наносіцца вадкая каляровая гліна — ангоб. Атрымліваюцца адмысловыя ўзоры, якія потым дапрацоўваюцца. Калі малюнак нанесены, выраб абпальваецца ў печы.***

Івянец — прыгожы пасёлак. Сюды накіроўваюцца, каб адпачыць і пацікавіцца гісторыяй.

*Наста Лявінская*






# Збіраемся ў экспедыцыю!



Як можна запланаваць сустрэчу з чорным буслом, вельмі недаверлівай і асцярожнай птушкай? Хто такія арнітолагі? Як правільна зладзіць сапраўдную навуковую экспедыцыю? Зараз даведаемся!

## ШТО ТАКОЕ ЭКСПЕДЫЦЫЯ?

Калі не паглыбляцца ў гісторыю, то экспедыцыя — гэта арганізаваныя дзеянні людзей для выканання запланаваных мерапрыемстваў на аддаленых ад цэнтра аб’ектах.

Экспедыцыі бываюць розныя: даследчыя, навуковыя, пошукавыя, транспартныя і нават паштовыя (дастаўка лістоў і пасылак).

Мяркую, што цяпер мы без праблем пачнём падрыхтоўку да экспедыцыі за чорным буслом, якая дакладна называецца так: пошукава-даследчая арніталагічная экспедыцыя па ўліку гнёздаў чорных буслоў. Менавіта гэтая птушка дапаможа нам зазірнуць у таямніцы прыроды.

## ХТО ТАКІЯ АРНІТОЛАГІ І ПРА ШТО ЯНЫ МАРАЦЬ?

У сучасных навукоўцаў з’явілася магчымасць назіраць за бусламі не толькі ў біноклі ды подзорныя трубы, але і на экранах сваіх смартфонаў, айфонаў і айпадаў. Справа ў тым, што сучасная аптычная тэхніка дазваляе назіраць за жывёламі ў іх «доме» — лясах, рэках і нябёсах. Толькі для гэтага трэба ведаць, куды і як прыладзіць фота- ці відэапастку. А можна размясціць на вялікай птушцы відэакамеру з добрым акумулятарам і бачыць навакольны свет «вачыма»

*Вы ведаеце белага бусла, хтосьці пазнае чорнага, мала хто чуў пра дальнеўсходніх буслоў, але арнітолагам знаёмыя і розныя іншыя віды, назвы якіх вы маглі прачытаць у якіх-небудзь казках. Можа, хтосьці ўзгадае такія назвы: марабу, ярыбу, клювач і разявака. Як ні дзіўна, гэта ўсё буслы. Тэрыторыя пражывання, ці, па-навуковаму, арэал знаходзіцца ў Еўразіі, Афрыцы, часткова ў Аўстраліі і Паўднёвай Амерыцы. У Паўночнай Амерыцы амерыканскі бусел жыве толькі на поўдні. Увогуле, буслоў няма хіба што ў Антарктыдзе, а ўсяго ў свеце існуе 17 відаў гэтых птушак. Два з іх жывуць у нас, на Беларусі.*

*Самы цяжкі бусел — афрыканскі разявака, важыць да 9 кг.*

*Найбольшы размах крылаў — у афрыканскага марабу. Да 320 см, другое месца ў свеце пасля альбатроса.*

*А сіваклювы бусел самы высокі — 147 см.*



*Ёсць у Беларусі грамадскае аб'яднанне «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) — міжнародная арганізацыя, што аб'ядноўвае ў Беларусі людзей, неабыякавых да прыродакарыстання, пытанняў аховы рэдкіх жывёл і раслін, папулярызацыі ведаў па экалогіі роднага краю. З меркаваннем гэтай арганізацыі лічацца і навукоўцы, і адміністрацыя краіны, і міжнародная супольнасць. Летась АПБ намініравала наш клуб «Выток» і брэнд «Школа экспедыцый» у якасці Ахоўнікаў Брыцалавіцкай пушчы, якая ўваходзіць у склад Свіслацка-Беразінскага заказніка. Гэта значыць, што кожны член клуба з'яўляецца ахоўнікам названага ляснога масіву. Гэта не толькі ганаровая, але і адказная місія.*

*Далей чытайце асабліва ўважліва! **Мы набіраем хлопцаў і дзяўчат на часовую экскурсію ў кожную з нашых экспедыцый.** Але каб зрабіцца турыстам-назіральнікам у арніталагічнай альбо іхтыялагічнай экспедыцыі, трэба, у першую чаргу, прачытаць другую частку артыкула ў наступным нумары часопіса «Бярозка». Спадзяюся, вас зацікавіць магчымасць правесці свой вольны час у складзе **сапраўднай навуковай экспедыцыі**.*

птушак. Навукоўцы мараць убачыць так палі, горы, моры і адчуць, як крылатыя паляўнічыя з вялікай хуткасцю нясуцца за здабычай. Гэта і ёсць перспектыва працы заолагаў, якія займаюцца вывучэннем птушак. Гэтых вучоных называюць яшчэ арнітолагамі. Лацінскае слова ornitos азначае «птушкі».

## ШТО ЎМЕЮЦЬ АРНІТОЛАГІ?

- Вельмі шмат чытаць, нават на замежных мовах, слухаць і разумець «музыку» лясоў і палёў (у большасці арнітолагаў музычны слых),
- быць разведчыкамі прыроды (ведаюць сляды жывёл і птушак, добра арыентуюцца на мясцовасці),
- скараць вяршыні дрэў, як альпіністы — горныя вяршыні,
- разбірацца ў сучаснай тэхніцы (камп'ютарах, аптычных прыладах, навігатарах і г. д),
- апісваць тое, што ўбачылі і прыдумалі (пісаць кнігі, навуковыя артыкулы),
- даказваць сваю правату і абараняць тэорыі,
- даваць знойдзеным прыродным аб'ектам свае імёны.

## ХТО МОЖА СТАЦЬ СЯБРАМ ПТУШАК?

**Аматары-натуралісты.** Яны крыху саступаюць прафесійным арнітолагам. Тэарэтычная база ў іх слабейшая, ды і з абсталяваннем тугавата. Затое ёсць перавага — любімая птушка. Пра яе аматар ведае ўсё, што ёсць у сусветнай літаратуры, а мо і болей. І арнітагалагічная інтуіцыя ў дачыненні да гэтай птушкі куды больш развітая, чым у звычайнага навукоўца. Апошнія якраз і сябруюць з натуралістамі за гэтыя якасці, запрашаюць іх у навуковыя экспедыцыі як валанцёраў. Усім карысць ад такога супрацоўніцтва, а самае галоўнае, новыя веды пра птушак дазваляюць дапамагчы ім, калі спатрэбіцца.

**Юннаты.** Дзеці, якія хочуць займацца вывучэннем жывёльнага свету. Яны не вы-

бралі яшчэ любімы накірунак у заалогіі, але вельмі любяць родную прыроду і гатовыя абараняць і вывучаць яе. Гэта і ёсць юныя натуралісты, юннаты.

## ХТО ТАКІЯ КУРСАНТЫ «ШКОЛЫ ЭКСПЕДЫЦЫЙ»?

Асаблівыя хлопцы і дзяўчаты. Стаўшы курсантам «Школы экспедыцый», юннат робіць першы крок да прафесійнага засваення любімай сферы біялогіі. Першы год — школа «маладога байца». За гэты час курсант паказвае свае ўменні і дзеліцца з сябрамі ведамі, пераймае вопыт педагогаў, вызначаецца з накірункамі сваіх далейшых даследаванняў.

Падчас другога года курсант распрацоўвае праект уласнай даследчай экспедыцыі. Яго потым трэба абараніць на клубным конкурсе. Пераможца на наступны год рэалізоўвае яго. На працягу трох гадоў курсанты прымаюць удзел у пастаянных экспедыцыях клуба «Выток», дзе вучацца весці даследаванні сучаснымі метадамі, працаваць «у полі», пераймаюць вопыт у спецыялістаў Нацыянальнай акадэміі навук і галоўнае — знаходзяць аднадумцаў сярод курсантаў. «Чорны бусел», «Беларускі ласось», «Сацыяльная экалогія» — гэтыя экспедыцыі абавязкова праходзіць кожны курсант.

***Аляксей Мухля,***
***кіраўнік клуба даследчых экспедыцый «Выток»***
***Звяртацца па адрасе: alexej-nam@mail.ru***

# Погляд юнната

Да дзявятага класа я толькі чула, што існуе такая прафесія — арнітолаг, але не паглыблялася ў сутнасць і сэнс гэтага занятку. Летам мяне і маю сястру запрасіў у дзіцячы экалагічны лагер «Арнітолаг» Аляксей Мустафавіч Мухля, кіраўнік клуба «Выток».

Лагер размясціўся на рацэ Гарынь, прытоку Прыпяці. Там я і пазнаёмілася з сапраўднымі арнітолагамі. Дык што ж гэта за прафесія такая? Высветлілася, што не ўсё проста. Трэба шмат ведаць, шмат чаму навучыцца, шмат да чаго прывыкнуць, шмат што нават палюбіць.

Спачатку я трапіла ў групу назіральнікаў. Пасля ранняга сняданку Марына Рыгораўна і Павел, арнітолагі, якім мы дапамагалі, вызначылі для нас каардынаты месца назірання — і мы пайшлі туды пешкі. Усім хацелася хутчэй убачыць птушак. Але Аляксей Мустафавіч выдаў нам падзорныя трубы толькі для таго, каб мы вучыліся іх устанаўліваць. Карацей, мы пачалі свае назіранні за птушкамі толькі пасля таго, як навучыліся правільна наводзіць рэзкасць і выбіраць павелічэнне.

Было нялёгка назіраць за даляглядам, бо гэта патрабуе вялікай увагі, спакою і ўседлівасці. Нас вучылі адрозніваць птушак па форме крыла і колеру апярэння. Пакуль мы пазменна назіралі ў біноклі і падзорныя трубы, нам распавядалі, чым харчуюцца птушкі. У асноўным перад аб'ектывам праляталі чорны і белы буслы, малы падорлік, мышалоў.

Але навошта мы назіраем за імі? Чорны бусел, як усім вядома, птушка з Чырвонай кнігі, і нам трэба было вызначыць участак лесу ці хаця б напрамак, дзе

лётаюць гэтыя скрытныя істоты. Наша праца па назіранні зводзілася да вызначэння напрамку — азімута, дзе бусел лунаў над вялізнымі ляснымі масівамі, перш чым заляцець у лес. Там, хутчэй за ўсё, будзе яго гняздо, а ў ім — птушаняты. Гэтым нас і заінтрыгавалі, да таго ж патлумачылі, што каардынаты арнітолагам патрэбны восенню ці зімой — для таго каб «прачэсваць» лес. Настаўнік удакладніў, што калі каардынаты няправільныя, то зімой давядзецца дарэмна прайсці 5—10 кіламетраў па гразі і снезе, і адразу ж запрасіў нас у зімовую экспедыцыю. У выпадку памылкі наступным летам на Гарыні рабіць не будзе чаго, бо гнёзды ў густых зялёных кронах заўважыць без дакладных каардынат амаль не магчыма. Мы стараліся працаваць сумленна і адчувалі вялікую адказнасць.

Назаўтра вырашылі схітрыць і тэрмінова перайсці ў іншую групу, у якой ужо сёлета можна ўбачыць гняздо і акальцаваць буслянятак. І вось мы ў другой групе. Падняліся таксама рана, але не ішлі пешкі, а ехалі на машынах з арнітолагамі. Па дарозе яны распавядалі нам, што трэба і чаго нельга рабіць у лесе.

***Першае:*** нельга гучна размаўляць.

***Другое:*** назіраць трэба на 360 градусаў.

***Трэцяе:*** асноўная задача на дзень — знайсці гняздо, акальцаваць буслянят і ісці да наступнага гнязда.

І ўсё не так проста. Пад’ехаўшы на машыне да лесу, мы выгрузілі заплечнікі з нашымі прыладамі, уключылі GPS, на якіх былі адзначаны гнёзды, і ўвайшлі ў лес. Мы ішлі не па звычайнай раз’езджанай дарозе, а па зарасніках, у крапіве, якая была вышэй за нас, сустракалі сляды драпежных жывёл. Арнітолагі распавядалі, якая птушка спявае зараз, як яна выглядае, чым харчуецца і шмат іншага пра яе ж. Але вось мы ля гнязда.

Уявіце: стаіць вялікі дуб і на вышыні 8—12 метраў знаходзіцца гняздо бусла. Разгружаем «абсталяванне». Бяром катушку з лескай для вуды, рагаціну і грузік для пачатку. Грузік чапляецца за леску, і трэба цэліцца ім з рагаціны ў моцную, блізкую да гнязда галіну. Стрэл, грузік пералятае галіну і апускаецца на зямлю. Чапляем за яго тоўстую вяроўку і яна перацягваецца праз галінку назад. А ў той час Павел апранае спецыяльную амуніцыю, каб залезці па вяроўцы ў гняздо. Пакуль ён ускарасквaецца наверх, Марына Рыгораўна і мы раскладаем патрэбныя рэчы для кальцавання буслянят: лінейкі, сшытак, кольцы, на якіх выбіты пашпартныя дадзеныя, шалі, мяшок, з дапамогай якога птушанят будуць перадаваць зверху ўніз. Калі Паша набліжаецца, птушаняты пачынаюць крычаць.

Вось вялікія пуховыя камячкі на зямлі. Буслянятам мераюць дзюбкі і крылы, дадзеныя запісваюць. Птушанят кальцуюць — і яны паспяхова вяртаюцца ў гняздо.

У такі лагер я прыязджаю ўжо два гады з вялікім задавальненнем. Усё, што тут апісана, я сама паспрабавала зрабіць і магу сказаць, што прафесія арнітолага — гэта не толькі веданне птушак, не толькі заалогія, але і душэўны спакой, добрая фізічная нагрузка, адчуванне сябе зарыентаваным у прасторы і пачуццё любові да прыроды. І я ўпэўнена, што гэта яшчэ не ўсе чалавечыя якасці і здольнасці, якія можа адкрыць гэты занятак.

***Алеся Бесман,***
***11 клас, СШ № 51, Мінск,***
***клуб даследчых экспедыцый «Выток»***

# Чорныя каты
## прыносяць шчасце



У розных краінах з катамі звязана мноства супярэчлівых прыкмет. Напрыклад, у Брытаніі і Аўстраліі лічыцца, што чорныя каты прыносяць шчасце. У многіх краінах Еўропы і ЗША, наадварот, чорны кот прадвесціць няшчасце, а ў Расіі абараняе хату ад злодзеяў. У маракоў існавала павер'е, што чорны кот, які пасяліўся на караблі, — вельмі добры знак. Выгнаць яго — гэта ўсё роўна, што выкінуць шчасце за борт.

Здольнасць катоў прадчуваць небяспеку ўжо даўно нікога не здзіўляе. У гарадах і вёсках непадалёк ад Везувія няма сям'і, дзе б не жылі каты. За доўгія стагоддзі жыццё навучыла італьянцаў, дамы якіх пабудаваныя на схілах дзеючага вулкана, спадзявацца на адчуванні пухнатых улюбёнцаў больш, чым на прагнозы навукоўцаў.

І ў гады Другой сусветнай вайны каты нярэдка ратавалі гаспадароў. Гэтая здольнасць жывёл апынулася настолькі каштоўнай, што ў Еўропе быў заснаваны спецыяльны медаль з выгравіраванымі на ім словамі: «Мы таксама служым радзіме». Медаль уручаўся катам, якія выратавалі чалавечыя жыцці.

А іх уменне прызямляцца з любога становішча на лапы? Знаходзіць дарогу дадому за сотні кіламетраў? А здольнасць лячыць, прызнаная медыкамі ўсёй планеты? Ды яшчэ ўменне бачыць істот з таго свету, накшталт мяне?

Безумоўна, у нашых знаёмых і блізкіх мурлыкаў больш загадак, чым існуе адгадак. Важна, што яны застаюцца нашымі сябрамі, ганарлівымі і незалежнымі, але заўсёды адданымі тым, каго любяць!

Але, здаецца, хутка раніца. Мой прыяцель-кот Ра адправіўся па карнізе сустракаць надыходзячы світанак.

Я ж развітваюся з табой да новай сустрэчы! Спадзяюся, у цябе таксама знойдзецца для мяне гісторыя пра знаёмага і дзіўнага ката. Дашлі мне яе, калі занатуеш.

***Твой сябар Аркаша***

***За ліст да Аркашы рэдакцыя абяцае каштоўны прыз!***








*Ірына Радзіхоўская*

# Пра што думае снег, які падае на зямлю

Калі першыя сняжынкі толькі-толькі зрываюцца з мяккай хмары і, плаўна кружачыся ў марозным паветры, пачынаюць павольна апускацца, — зямля, да якой яны няўмольна набліжаюцца, зусім не прывабная, чорная, месцамі пакрытая халоднымі шклянымі лужынамі.

Пра што думае снег у гэтыя імгненні?

Можа, ніводная сняжынка не жадае датыкацца да вось гэтага «чагосьці»? Можа, кожная па-свойму адчувае, што наперадзе — канец, што варта прыхінуцца сваім бязважкім беласнежным цельцам да брудна-чорнай зямлі, як адразу знікнеш, ператворышся ў празрыстыя кроплі, злучышся з іншымі такімі ж няшчаснымі, сыдзеш у страшэнныя, злавесныя нетры чарнаты і ніколі не вернешся… Ці, сцякаючы бруднаватымі раўчукамі ў азёры лужын, адчуваючы сябе невымоўна самотнымі, чапляцца за суседак, прыціскацца да іх так шчыльна, што ў адзін неверагодны момант вада ў лужыне стане бялёсым крохкім шклом. А потым іх ахутаюць новыя сняжынкі — мноства бялюткіх пчолак зляцiцца да сваіх былых сябровак, спрабуючы выратаваць тых ад лютага холаду. І так да вясны. І тыя, самыя першыя сняжынкі, узбіраючыся па лесвічках з сонечных прамянёў, узнімуцца назад, да неба, каб калі-небудзь вярнуцца...

Мне вельмі хочацца верыць, што, злятаючы з хмары, кожная сняжынка адчувае казачную лёгкасць і доўгачаканую волю. Тады ўсе яны спяшаюцца ўбачыць за аблокамі такі дзіўны і нязвыклы зямны свет…

Яны абдымаюцца з ветрам, той падхоплівае іх, гжэчным кавалерам запрашаючы на няўяўны танец, павольна адводзячы кожную з гэтых маленькіх наіўных дурнічак у такую вабную невядомасць.

Яны імчацца, кружацца, імкліва і плаўна.

Ім усё цікава, іх усё захапляе.

Сняжынкі ўрачыста-хораша кладуцца на зямлю, садзяцца на дахі хат, прыціскаюцца да дрэў, прымаючы тыя ў саграваальныя, хай і халодныя абдоймы.

Яны з трапятаннем дакранаюцца да дзіцячых носікаў, счырванелых шчочак, закахана ўзіраюцца ў шчырыя і шчаслівыя ўсмешкі.

Яны выводзяць чароўныя ўзоры на вокнах утульных кватэрак, скрозь шкло глядзяць на чалавечае жыццё, захапляюцца, дзівяцца, цешацца.

Сняжынкі апускаюцца на вейкі, зіхацяць у валасах, непаўторнымі крышталікамі размяшчаюцца на рукавічках.

Падаючы на зямлю, яны думаюць пра тое хвалюючае, невядомае, што чакае іх наперадзе. Для іх сустрэча з зямлёй — не канец, а пачатак чагосьці новага, чароўнага, нерэальнага. Яны самазабыўна вераць у лепшае, для іх не існуе і ніколі не будзе існаваць болю, страху, цемры. Для іх існуюць толькі воля, палёт і казка.

Сняжынкі падобныя да людзей.

# Заходзь да мяне на гарбату!


Ганна Яўсейчык

— Заходзь да мяне на гарбату!

Як часта мы чуем і самі, запрашаючы ў госці, гаворым гэта родным, сябрам, знаёмым. Усім, з кім нам хочацца пабачыцца і паразмаўляць. А вы калі-небудзь задумваліся: чаму менавіта на гарбату? Чаму не на сок або, напрыклад, кампот?

На мой погляд, адказ трэба шукаць у непаўторных асаблівасцях гарбаты. Бо з ёй кожная размова становіцца цяплейшай, атмасфера ўтульнай, а словы шчырымі. Гарбата стагоддзямі лічыцца своеасаблівым сімвалам гармоніі, спакою і яднання людзей. Пачаставаць гарбатай — не толькі прыкмета гасціннасці, але і нагода сустрэцца, пазнаёміцца бліжэй.

Для мяне гарбата — па-сапраўднаму чароўны рытуал. Пачынаецца з таго, што ты пытаешся ў госця, якую гарбату ён будзе. У адказ можна пачуць: «А якая ёсць?» І тут ты пералічваеш: чорная, зялёная, чырвоная, з шыпшынай, рамонкам, язмінам, мятай… Мне чамусьці здаецца, што ў добрага гаспадара павінна знайсціся гарбата на любы густ. Заўсёды цікава, якому варыянту госць аддасць перавагу. Дзіўна, калі чалавек, які на першы погляд здаецца простым і кансерватыўным, выбірае незвычайны напой са спецыямі. Або наадварот: яркая крэатыўная асоба просіць наліць традыцыйнай гарбаты. Так мы адкрываем у сваіх знаёмых штосьці новае…

У маёй кухні можна адразу прыкмеціць вялікую паліцу, на якой у радок прыгожа стаяць кубкі самых розных колераў і памераў. Я заўсёды прапаноўваю госцю выбраць сабе конаўку. Важны элемент — цукар. Хтосьці насыпае адразу пяць лыжак, а хтосьці адмаўляецца ад салодкай гарбаты. Ліставая або ў пакеціках, моцна або слаба завараная… Мне падабаецца звяртаць увагу на такія дробязі. Я ўпэўнена: ніколі-ніколі ў цябе не атрымаецца зрабіць для двух гасцей два аднолькавыя кубкі гарбаты — для кожнага чалавека існуе непаўторны рэцэпт. Гэта як адбітак пальца — у кожага індывідуальны.

І вось вада ў чайніку кіпіць, ствараючы вясёлую мелодыю. На стале ўжо стаяць пачастункі, усе ў чаканні чагосьці прыемнага, добрага. А як толькі гаспадар пачынае наліваць у кубкі чароўны напой, пачынаюць ліцца і размовы — пра ўсё на свеце. Сапраўдны цуд, так?

Кітайскі мудрэц Лу Юй, які ўсё сваё жыццё прысвяціў вывучэнню ўласцівасцей чаю, казаў: «Калі доўга яго піць, могуць вырасці крылы». Нездарама гэты напой любілі многія творчыя асобы. Леў Талстой аднойчы прызнаўся: «Я павінен піць шмат гарбаты, бо без яе не магу працаваць. Гарбата вызваляе тыя магчымасці, якія дрэмлюць у глыбіні маёй душы».

Перада мной сшытак з амаль напісаным тэкстам. Я раблю апошні глыток свайго любімага напою і нарэшце стаўлю кропку. Засталося сказаць: «Заходзь да мяне на гарбату!»


Ганна Варонка

# Папкорн, халва, мультфільмы, шакаладка...



Праблема людзей у тым, што да ўсяго яны ставяцца занадта сур'ёзна.

Мы не заўважаем вакол сябе маленькіх радасцей. Кудысьці спяшаемся, бяжым, хвалюемся, крыўдуем, шкадуем сябе… Жыццё пралятае ў пагоні за мэтамі, якія мы лічым важнымі. А ці такія ўжо яны важныя? Ці не лепш спыніцца і паглядзець на свет навокал? Неба не зваліцца на зямлю, калі мы трошкі адпачнём.

Часам трэба ладзіць сабе маленькае свята — дзень, калі можна дазволіць сабе ўсё. Падумай, чаго ты так даўно жадаеш, але заўсёды адкладваеш, бо не хапае часу, шкада грошай, а мо ўвогуле «ўжо не ў тым узросце». Падумай — і дзейнічай! Дазволь сабе ў вызначаны дзень адкласці самыя важныя справы і трохі пахуліганіць! Глянь, як прыгожа за акном! І калі ты, як і я, любіш восеньскае пахмурнае надвор'е, то табе будзе вельмі прыемна пайсці прагуляцца ў лес ці парк — адчуць водар восені. Гэта цу-у-удоўная нагода дастаць з шафы цёплы шалік і зрабіць шпацыр яшчэ і стыльным! Калі ты любіш мульцікі — схадзі ў кіно, купі вядро папкорну і пасмейся ад душы. У гэты дзень варта з радасцю з'есці вялізную шакаладку ці піроожнае, глыбу халвы ці і тое, і другое, і трэцяе. Калі ты любіш вялікія кампаніі — пазвані сябрам і зрабіце вечарынку. Калі ты любіш бываць самотным — правядзі дзень у кампаніі любімай кнігі.

> Жыццё пралятае ў пагоні за мэтамі, якія мы лічым важнымі. А ці такія ўжо яны важныя?

Няважна, што ты будзеш рабіць у гэты дзень. Галоўнае, каб гэта рабілася з задавальненнем. «Не стойце на месцы», — крычаць нам з плакатаў. А я скажу, што часам неабходна спыніцца і адчуць шчасце, сваё маленькае шчасце.

***Самае глыбокае мора — Філіпінскае, яго максімальная глыбіня — 10 265 метраў. А глыбіня Жоўтага мора не перавышае ста метраў. І гэта менш нават, чым глыбіня многіх буйных азёраў.***



# Нэвілы Лонгботамы



*Дар'я Чарняўская*

Пакуль нехта ўпотай спрабуе смаліць цыгарэты ці смакуе піва, яны ўжо ведаюць, кім будуць пасля школы. Не толькі ведаюць, але і рухаюцца да сваіх мэт. Напрыклад, Нэвіл Лонгботам стаў выдатнікам па травалогіі (навука, якая вывучае расліны ў кнігах Джаан Роўлінг). Каб захапленне ператварылася ў нешта большае, яго вольны час прысвячаўся тоўстым старажытным кніжкам, працы ў аранжарэях, дадатковым сустрэчам з настаўнікам.

Нэвілы з рэальнага свету могуць цікавіцца чым заўгодна. Фізіка, хімія, літаратура, замежныя мовы, маляванне, складанне вершаў ці вышыванне крыжыкам — галоўнае, што яны займаюцца сваёй справай не толькі падчас арганізаваных заняткаў. Застацца пасля ўрокаў? Лёгка! Выканаць на дзесяць практыкаванняў больш? Зробім! Падрыхтавацца да алімпіяды і абараніць гонар школы на гарадскім спаборніцтве? Так, смела разлічвайце на іх у любым выпадку.

На жаль, часцей бывае так, што найлепшыя якасці Нэвілаў іх аднакласнікі прымаюць за недахопы. Клічуць батанікамі ды дзівакамі, задзіраюць, здзекуюцца з кожнага няўдалага кроку. А спатыкнуцца пад бязлітасным позіркам вельмі проста. Калі чалавек цалкам засяроджаны на чымсьці, ён не звяртае ўвагі на іншыя рэчы. Хоць Нэвілы і сапраўдныя ведзьмакі ў коле сваіх захапленняў, звычайнае жыццё для іх — цяжкае выпрабаванне. Нашыя небаракі могуць трапляць у няёмкае становішча па некалькі разоў на дзень і сарамліва прасіць прабачэння за сваю нязграбнасць. Яны не «крутыя» і не імкнуцца імі стаць.

Аднак нельга назваць іх самотнымі. Сяброўства — яшчэ адзін цуд, падуладны сапраўдным Лонгботамам. Тыя, хто не спужаецца рэпутацыі «завучкі», атрымаюць у адказ шчырасць і адданасць на доўгі час. Кпіць з Нэвілаў можна, але толькі паспрабуй крануць іх сябра — адразу пазнаёмішся з адваротным бокам батанікаў-дзівакоў. Тут і рашучасць, і моц, і патрэбныя словы знойдуцца, і такога пытлю крыўдніку зададуць — ух! Не вытрывае сам Лорд Валан-дэ-Морт, не тое што старшакласнікі на перапынку.

Мода — гарэзлівая капрызуля. Ужо надыходзіць час, калі Нэвілы Лонгботамы не будуць сядзець у кутку, пакуль Гары, Рон і Герміёна вядуць рэй. Нават кіно пачало звяртаць на іх увагу: пасля серыяла «Тэорыя вялікага выбуху» героем нашага часу стаў былы батанік, чалавек у акулярах. У кожным класе ёсць такія ж героі, і яны абавязкова дачакаюцца зручнага моманту, каб праявіць сябе. Хочаш трапіць у трэнд? Не бойся быць дзіваком.

Вучням старэйшых класаў

# Пішы!


КРЫВІЧ
месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця.
Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОУСКАГА.
Год выданьня другі
1924 г. СТУДЗЕНЬ—САКАВІК № 1. (7)
В. ЛАСТОУСКІ
Пішы...

***Часам карысна зазірнуць у старыя часопісы ды пакорпацца ў іх. Можна адшукаць што-небудзь актуальнае, на вякі напісанае. Гартаў я неяк часопіс «Крывіч», які выдаваўся ў Коўне Вацлавам Ластоўскім амаль сто год таму. І раптам мой позірк зачапіўся за верш «Пішы…» на тытульным лісце выдання.***

У гэтым вершы Ластоўскі звяртаецца да чытача з заклікам пісаць. Проста пісаць, не звяртаючы ўвагі на праблемы і цяжкасці, падымаючы актуальныя тэмы, распавядаючы пра перажыванні. І мае рацыю ў сваіх парадах. Думкі Ластоўскага перасякаюцца тут з думкамі амерыканскай пісьменніцы, нашай сучасніцы Эн Ламот. У кнізе «Птушка за птушкай. Занатоўкі пра пісьменніцтва і жыццё ў цэлым» яна літаральна паўтарае словы нашага класіка. І дадае, што пісаць трэба шмат і часта, каб сам працэс дайшоў да аўтаматызму.

Ёсць у Ганса Ван Сэнта фільм з Шонам Конэры ў галоўнай ролі — «Знайсці Форэстэра». У ім паказана сяброўства хлопца, які мае літаратурныя здольнасці, і вядомага пісьменніка, які вядзе замкнёны лад жыцця ў не самым спакойным раёне амерыканскага мегаполіса. Хлопец вяртае сівабародага дзядка да жыцця са звычайнымі чалавечымі радасцямі. У адказ пісьменнік вучыць хлопца сваёй справе. У фільме ёсць момант, калі Уільям Форэстэр, пісьменнік, бярэ ў рукі друкарскую машынку і пачынае набіраць тэкст. Тое ж прапаноўвае зрабіць хлопцу. У наступным кадры яны ўжо ўдваіх набіраюць літары. «Спачатку ты пішаш сэрцам, пасля пішаш галавой. Першае правіла пісьменніка — пісаць, не думаючы!» — кажа Форэстэр свайму вучню.

Герой Шона Конэры мае рацыю. Сапраўды, часам не важна, пра што пісаць, галоўнае — сам працэс. Табе ж зусім не абавязкова адразу несці напісанае ў рэдакцыю часопіса, адсылаць на які-небудзь літаратурны партал ці публікаваць ва ўласным блогу. Няхай адляжыцца. Можна нават збіраць усе занатоўкі ды абразкі для калекцыі, каб яны ў будучыні саслужылі добрую службу, прыдаўшыся да больш аб'ёмных тэкстаў.

Таму пішы, юны чытач, як гэта раіў некалі рабіць наш славуты Вацлаў Ластоўскі!

***Канстанцін Касяк***

# Сцісласць — сястра «Твітэра», «Твітэр» — сябар пісьменніка

Аднойчы мне пашэнціла завітаць на майстар-клас да паспяховага беларускага блогера. Шчыра кажучы, дагэтуль я ставілася да блогераў даволі скептычна. Пішуць сабе нешта ў электронным дзённіку, каб усе бачылі, якія яны таленавітыя. Не пісьменнікі, не журналісты — якая ад іх карысць? Але тая лекцыя нечакана аказалася сапраўды карыснай. Там мы даведаліся, якім чынам можна з простага чалавека ператварыцца ў цікавага аўтара. Дапаможа ў гэтым… «Твітэр»!

Першае правіла, пададзенае блогерам: «Сцісласць — сястра таленту» (малайчынка, дружа! Адразу пазнаў выказванне Антона Паўлавіча Чэхава). А як навучыцца той сцісласці? Здаецца, пішаш сачыненне ў школе — і толькі марыш, як бы яшчэ трошкі дадаць да канца старонкі, каб выканаць патрабаванне настаўніка. Тут не да скарачэнняў. «Твітэр» — іншая справа. Яго стваральнікі абмежавалі колькасць літар, і табе неабходна будзе скончыць выказванне праз 140 сімвалаў. Каб «Твітэр» працаваў на карысць, трэба пісаць не пра тое, што з'еў на сняданак, а тое, што не сорамна зрабіць тэмай ці ідэяй апавядання або артыкула. Так вядомае сацыяльнае сеціва можа стаць першай прыступкай на шляху да журналістыкі і нават пісьменніцтва. Аднак караскацца па літаратурнай лесвіцы без дапамогі класікаў вельмі цяжка. Другое правіла блогера: пачні занатоўваць улюбёныя цытаты ў сеціве. Вось убачыш, сказы выбітных аўтараў лёгка змяшчаюцца ў абмежаванай колькасці радкоў. І не страчваюць сэнс, прыгажосць, індывідуальнасць. Таленавітыя творцы — лепшыя настаўнікі. Калі ты бачыш сябе праз колькі гадоў акулай пяра, пачытай Чэхава, Хемінгуэя, Даўлатава. Яны не толькі пісьменнікі, але і журналісты. Мабыць, таму і атрымліваецца ў іх коратка і зразумела казаць пра ўсё на свеце.

***У кіслым лімоне больш цукру, чым у салодкіх суніцах. У Старажытным Рыме лімон лічылі атрутай і выкарыстоўвалі як сродак супраць молі.***

Або ўзяць Караткевіча: «Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто, — і тады пераможаш» (прачытай, дружа, «Ладдзю роспачы», каб даведацца, ці дапамагла гэтая парада героям). Падняць сваё майстэрства можна на мініяцюрах паляка Ежы Леца і беларуса Алеся Разанава. Такія трапныя іх выслоўі, што ў кожным — маленькі сусвет, характар і парада ад разумнага чалавека.

***Дар'я Чарняўская***



# Яўген Булка і таямніца залатых пяскоў

## САКРЭТЫ ДЗІЦЯЧАГА ЛАГЕРА

У лагер адпачынку я трапіў ва ўзросце 12 гадоў і з вялікім задавальненнем ездзіў да 16-ці. Там былі свае сакрэты. Напрыклад, таямніца залатых пяскоў. За тэрыторыяй лагера знаходзіўся абрыў, у якім была вырыта пячора (гэта зараз я разумею, што там было небяспечна, у любы момант усё магло абрынуцца), пясок быў дробны, белага колеру, як на фотаздымках з Мальдзіваў, Сейшэлаў і іншых падобных мясцін. Для нас гэта была такая містыка. Мы, напрыклад, думалі, што гэты пясок нельга захоўваць, бо над ім уладарыць які-небудзь дух. Было вялікае выпрабаванне, звязанае з залатымі пяскамі, — хто адважыцца пайсці туды ноччу. Ніхто не хадзіў. Увогуле выходзіць за тэрыторыю лагера было нельга, але забарону парушалі. Хадзілі ў суседні лагер на дыскатэку. Нічога асаблівага на той дыскатэцы не было, але сам факт — гэта ж выклік! Мяне заўсёды цікавіла, што было б, калі б некага злавілі за такой справай, але я чамусьці не магу ўзгадаць такіх выпадкаў. Магчыма, кагосьці лавілі, казалі: «Што ж ты робіш, нехарошы ты чалавек», у крайнім выпадку — адпраўлялі дадому.

Увогуле, маё дзяцінства — гэта вельмі шмат свежага паветра, скокі і бегатня па гаражах (гэта цяпер паркоўкі, а гаражоў у цэнтры горада не знойдзеш), мы гулялі ў казакоў-разбойнікаў, пекара, футбол, «гарачую бульбу».

Мне перыядычна перападала за тое, што я мог позна прыйсці дадому. Мабільных тэлефонаў не было і бацькі маглі толькі здагадвацца, дзе ты і што робіш. Але з намі ўсё было добра. Гэта было напоўненае, цікавае дзяцінства.

## СУЧАСНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ

Аднойчы ў дзяцінстве мы сядзелі і думалі пра тое, што будзе ў якім-небудзь 2010-м. Думалі, што ўжо дакладна будуць машыны, якія могуць лётаць, і не будзе ніякіх хвароб, але мы нават уявіць не маглі, што з'явяцца тэлефоны, на якія можна фатаграфаваць, здымаць кіно і ўсё гэта адразу некуды дасылаць.

Я ведаю, што сучасныя дзеці больш падкаваныя ў тэхнічным плане. Ва ўзросце 10 год могуць ствараць фільмы, рабіць аўтарскія здымкі, фанаграмы… Мы на што толькі не ішлі, каб зрабіць фанаграмы для якіх-небудзь сваіх выступленняў! На плёначных магнітафонах была кнопка для падаўлення гуку, каб заставалася толькі музыка, без голасу. Але ў нас амаль нічога не атрымлівалася.

Парадаксальнасць сучаснага свету ў тым, што з'явілася столькі ўсяго цікавага! Нават калі не казаць пра робататэхніку, скаеры і квадракопцеры. Я б цікавіўся камп'ютарнымі тэхналогіямі. Але з іншага боку, тое, як гэта зацягвае, — непакоіць. Ты разумееш, што сядзіць цела, а дзе сам чалавек, незразумела. Такое мноства ўсяго — гэта добра, але пытанне: ці ёсць той, хто дапаможа з гэтым багаццем разабрацца? Многія дарослыя кажуць, што ў дзяцей з'яўляецца камунікацыйная праблема: калі забраць у іх гаджэты, ім няма пра што паразмаўляць, яны замаўкаюць і сядзяць паасобку. Раней часу на знаёмства патрабавалася значна менш, а вось на асваенне нейкай тэхнікі — шмат. Сучасныя дзеці робяць апошняе літаральна за секунды.

## ПРА ШКОЛУ

1 верасня як свята я не ўспрымаў. Але заўважыў такую рэч: у школе чакаеш канікул, а пад канец лета хочацца ў школу. Бо гэта новае выпрабаванне самога сябе, і нават калі нешта не атрымлівалася ў мінулым годзе, даеш сабе абяцанне: цяпер дакладна разбяруся. Абяцання хапала на першыя два ўрокі.

Першы раз я прагуляў заняткі ў 11-м класе. Гэта быў санкцыянаваны прагул на цэлы дзень, я нават сказаў маме: «Заўтра мы з сябрам прагульваем урокі». Мама адказала: «Ну, ладна». Гэта таму, што раней я ніколі не прагульваў, не было такой патрэбы. Школа ў нас была асаблівая — гімназія з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Я любіў усе літаратуры і мовы, а таксама хімію. Памятаю, па суботах была харэаграфія. Вельмі цікава. Канешне ж, фізкультура. Аднойчы ў 18 градусаў марозу мы пайшлі ў майках гуляць у футбол. На лёдзе. Ніхто не мог нават па мячу трапіць, бо, замахваючыся, адразу падаў.

## ПРА ЖУРФАК

Спачатку я чамусьці думаў, што буду паступаць у тэатральны. Быў упэўнены, што маё жыццё нейкім чынам звязана з публічнасцю. Калісьці граў у заслужаным тэатры «Слугі трох муз» — разам з Ірынай Мядзведзевай, вядомай сёння актрысай. А потым захацелася чагосьці яшчэ. Я не ўсведамляў тады, наколькі складаная прафесія акцёра, але разумеў, што хачу паспрабаваць нешта «суседняе». Выбраў факультэт журналістыкі.

Журфак — гэта, канешне, жыццё ў інтэрнаце. На першую лекцыю я спазніўся. Інтэрнат знаходзіўся далёка, я проста не разлічыў час на дарогу і мяне не пусцілі на занятак па рускай мове. На лекцыях я вельмі часта спаў. У нас была вялікая аўдыторыя з крэсламі, як у старых кінатэатрах. Мы пад імі ўтварылі цэлы падкрэсельны горад. Рассцілалі курткі, падкладалі заплечнікі, елі, спалі, размаўлялі, чыталі, каму нецікава было слухаць. Не прыходзіць на заняткі было немагчыма, бо нас адзначалі. Калі называюць тваё прозвішча, дастаеш галаву, крычыш: «Тут», калі пытаюцца: «Дзе?», даводзіцца выпаўзаць цалкам.

Я пачаў працаваць з трэцяга курса. Гэта быў Першы канал БТРК, перадача, у якой у мяне нават слоў не было. Я быў персанажам, які ажыўляў старую навіну

з газет мінулых стагоддзяў. Напрыклад, «у нейкім горадзе нейкі купец быў злоўлены на тым, што разбаўляў грэчку камянямі», і мы інсцэніравалі гэта. Праз некаторы час я атрымаў прапанову весці ў прамым эфіры рубрыку ў «Добрай раніцы, Беларусь». Здымкі ішлі не кожны дзень, таму сумяшчаць гэта з вучобай не было праблемай. Да адных заняткаў я рыхтаваўся даволі сур'ёзна, на другія звяртаў меней увагі. Вельмі падабаліся літаратуры, асабліва замежная. Я быў фанатам антычнай міфалогіі, і калі даведаўся, што гэты прадмет вывучаюць на першым курсе журфака, вельмі абрадаваўся.

## ПРА ТЭЛЕБАЧАННЕ

Скажу дзіўную рэч: тэлебачанне — гэта больш проста, чым здаецца, і больш складана, чым магло б быць. Ты можаш не справіцца са звычайным заданнем зрабіць завершаны сюжэт на тры хвіліны на вельмі цікавую тэму з вялікай колькасцю матэрыялаў. І наадварот, звычайная, тыповая падзея можа раптам ператварыцца ў нерэальна цікавую навіну на тэлебачанні. Ты баішся, што самае складанае — гэта праца ў кадры, а потым высвятляецца, што асноўныя складанасці чакаюць па-за камерамі. Напрыклад, узаемаадносіны з рэдактарамі, прадзюсарамі, рэжысёрамі.

Тэлевізійная кар'ера ідзе хвалямі. Спачатку ты на піку, потым унізе, зноў пік… Гэта не канчаткова. Ты пачынаеш залежаць ад жадання рэалізавацца. Нават калі глядзіш іншыя тэлеканалы, не можаш абстрагавацца, думаеш, што і як ты б зрабіў.

На тэлебачанні трэба быць крыху будзістам: ведаць, што жыццё нязменнае з аднаго боку, а з іншага — пастаянна змяняецца і нельга знайсці сябе аднойчы і назаўсёды. Сябе трэба шукаць у кожным моманце.

Вельмі важна ўсведамляць адказнасць, якую накладае на цябе шкло, за якім ты знаходзішся, калі прыходзіш у кожную хату. Цябе слухаюць і будуць рабіць так, як ты кажаш. І ці адказваеш ты за тое, што кажаш? Не верце тэлебачанню. Любіце, але не верце.

Я заўсёды аналізую сваю працу, магу быць задаволены асобнымі момантамі. Разумею, што раблю шмат памылак, недакладнасцей. Калі пачынаеш задумвацца пра адказнасць, можаш запытацца: а навошта табе гэта? Ад тваіх слоў залежыць некалькі лёсаў. Можна цалкам адмовіцца ад гэтага, але калі будзеш грузіцца гэтым, ты ніколі не зможаш казаць пра сур'ёзнае з неабходнай лёгкасцю.

## НАТХНЯЛЬНАЕ

Вельмі шкадую, што не атрымаў музычную адукацыю, хоць мужна цэлы год хадзіў у музычную школу, займаўся акардэонам. Таму звяртаюся да ўсіх чытачоў: калі вас прымушаюць хадзіць у музычную школу, хадзіце. А ўвогуле, якую б адукацыю ты ні атрымліваў, твая прафесія цябе знойдзе, бо адукацыя не абмяжоўваецца тым ВНУ, куды паступіў. Свет адкрыты, і калі захочаш, ты сам пачнеш сябе выхоўваць. Але гэта не значыць, што не трэба нічога рабіць, адгаворваючыся тым, што знаходзішся ў творчым пошуку. Трэба шмат чаго рабіць і слухаць менавіта сябе, а не кагосьці іншага. Вялікая колькасць музыкантаў не рэалізаваліся, бо іх бацькі былі ўрачамі, і наадварот, шмат урачоў згублена, бо іх бацькі былі музыкантамі.

Рана ці позна чалавек разумее, што без мэты нельга абысціся. Усім чытачам, якім яшчэ няма 20 год, я кажу: знайдзіце сабе мэту. Пасля 25 год пачынаеш адчуваць, што з'явіўся таймер, што часу, сіл, маладосці не так ужо і шмат. Чым раней пачнеш, тым большага зможаш дасягнуць. Але ёсць моманты, якія трэба проста праплыць. Сусвет лепей ведае, як трэба, і калі ты пачнеш барахтацца, то можаш пачаць супраціўляцца сваёй плыні, страціць сілы і патануць.

***Кацярына Захарэвіч***

Перапынак

# «Пекар» — гульня ад Яўгена Булкі

У гэтай гульні ёсць іншыя назвы і варыянты правіл. Мы прапаноўваем так. Знайдзіце прасторную пляцоўку. Калі надвор'е не дазваляе гуляць на дварэ, падыдзе спартыўная зала. Інвентар: устойлівы высокі цыліндрычнай формы прадмет (напрыклад, бляшанка ад кансерваванага гароху) і прамыя драўляныя палкі даўжынёй, прыкладна, па 80 см. Бляшанка ставіцца на адзін край пляцоўкі, можна на ўзвышэнне, напрыклад, на цагліну. Удзельнікі ў радок становяцца на другі край. Паміж гульцамі і бляшанкай малюецца некалькі ліній на адлегласці 40 см адна ад адной, і кожная падпісваецца: радавы, сяржант, лейтэнант, капітан, палкоўнік, генерал, маршал, прынц і кароль. У некаторых варыянтах гульні абыходзяцца без двух апошніх званняў. Апошняя зона — месца пекара. У ёй на адлегласці трох метраў ад мяжы з «каралём» малюецца кола. Усе ўдзельнікі становяцца на лінію радавых, ставяць адзін канец палкі на насок нагі і як мага мацней кідаюць яе ў бок зоны пекара. Той, чыя палка адляцела найдалей, атрымлівае права кідаць першым. Той, хто кінуў бліжэй да сябе, становіцца пекарам.

Пачынаецца сама гульня. Кожны кідае сваю палку, намагаючыся збіць бляшанку. Той, у каго гэта атрымаецца, «ідзе на павышэнне» — пераходзіць у наступную зону і наступны раз кідае ўжо з больш блізкай адлегласці. Пекар ставіць бляшанку на месца.

Калі ўсе ўдзельнікі засталіся без палак, ім трэба іх забраць. Як толькі гулец перасякае мяжу зоны пекара, каб забраць сваю палку і зноў збіць ёй банку ўжо з блізкай адлегласці, «гаспадар» павінен абараняцца і «прызначыць» каго-небудзь на сваё месца. «Прызначэнне» адбываецца дотыкам палкі да ўдзельніка, збіваннем банкі і выкрыкваннем імя новага пекара. Калі банку збівае нехта з сапернікаў (нават калі абаронца паспеў да некага дакрануцца), пекар застаецца на сваім месцы, банку вяртаюць, спробы працягваюцца. Удзельнік, які падчас змагання за бляшанку выратаваўся ўцёкамі ў іншыя зоны, не мае права вяртацца. Калі ўдзельнік дасягае звання маршала, пекар не можа дакрануцца да яго, пакуль той не возьме ў рукі палку.

Калі ўдзельнік становіцца пекарам, ён губляе ўсе званні і пачынае радавым.

Калі твая палка ўпала накрыж з чужой, ты можаш узяць гэты крыж — і пекар не будзе мець права да цябе дакрануцца, пакуль ты не разамкнеш гэты крыж.

***Кацярына Захарэвіч***

# І справа тут зусім не ў цыгарэтах


*Святлана Сітнік, псіхолаг*

***Усім вядома, што паліць — дрэнная звычка, цыгарэты робяць чалавека залежным, псуюць здароўе, скарачаюць жыццё. Яны — прычына сварак з бацькамі і непрыемнага паху ад рук, валасоў і адзення. Але, нават ведаючы пра наступствы курэння, многія ўсё роўна пачынаюць паліць, і менавіта ў школьным узросце. Чаму?***

Мы выявілі дзве прычыны, па якіх хлопчыкі і дзяўчынкі пачынаюць паліць. І справа тут зусім не ў цыгарэтах. А ў сябрах і знаёмых. Дома, у спакойнай абстаноўцы ля тэлевізара або камп'ютара наўрад ці каму прыходзіць у галаву сцягнуць у бацькі цыгарэту, паспрабаваць нікацінавую «залежнасць». А вось у кампаніі...

У кампаніі можна сутыкнуцца з простымі, элементарнымі, «дзіцячымі» маніпуляцыямі. «А слабо?» — самая распаўсюджаная і дзейсная. Маніпуляцыі — вельмі эфектыўны прыёмчык. Ён папулярны, бо выкарыстоўваюць яго як самыя маленькія (маніпулятары-пачаткоўцы), так і дарослыя (маніпулятары са стажам). «А слабо табе пераскочыць цераз гэтую лужыну?» — пытаецца адзін карапуз у другога, хітра прыжмурыўшы вочы. А той разумее, што лужыну яму не пераскочыць — занадта вялікая, ды і мама будзе лаяцца за брудныя штонікі, але слабаком быць не хоча: ён жа лічыць сябе моцным і адважным. І робіць скок... Пад рогат дзятвы ён «сядае ў лужыну», а яго дагэтуль лепшы сябар, падбухторшчык і правакатар, вядома ж, смяецца званчэй за ўсіх.

Узяць «на слабо» вельмі лёгка, калі ты не разумееш, што з табою хітруюць або маніпулююць. Прычым, твае знаёмыя могуць рабіць гэта не па злобе, а хоць бы таму, што так прынята ў кампаніі. Напрыклад, угаворваюць кожнага пачаткоўца папаліць — так прымаюць у свой круг, а каб хутчэй пагадзіўся, правакуюць: «Што ты як маленькі!». Гэта той самы прыёмчык, злёгку завэлюмаваная маніпуляцыя. Сутнасць прыкладна тая ж: «Ты ж не хочаш быць слабенькім, маленькім, “лохам”, “адсталым”, нямодным? Тады давай, хутчэй запальвай! І закрыем гэтую тэму!»

— Мая новая сяброўка прывяла мяне на сваю тусоўку, — распавядае Анжэла, ёй 14 гадоў, — а мне заўсёды хацелася, каб у мяне была свая кампанія. Вядома ж, я хацела ўсім спадабацца, збіралася на сустрэчу дзве гадзіны. Усе сядзелі — хто на крайках, хто на лаўках. У аднаго з хлопцаў была гітара, па ім адразу відаць, што ён — лідар. Ён мне спадабаўся, я набралася адвагі і падсела да яго. Хлопец дастаў цыгарэты і прапанаваў мне. Я адмовілася, сказала, што не палю. Ён здзівіўся: «Ды ну,



Мастачка
Алёна Макавецкая

не веру» і пачаў крычаць пра гэта, а ўсе сталі глядзець на нас. Казаў: «Паспрабуй! Што ты як не свая!» Было вельмі непрыемна, я паднялася і перасела ад яго. Хлопцы яшчэ жартавалі, але да мяне з прапановамі папаліць больш ніхто не чапляўся.

Не паддацца на падобныя правакацыі складана, але Анжэла змагла выстаяць. Яна не пачала паліць, абараніла сябе, паказала сваю незалежнасць і засталася свабоднай ад цыгарэт. Але не ўсе на такое здатныя. Чаму ж гэта так складана? Што астатнія робяць не так?

Застаюцца занадта самаўпэўненымі. «Са мной такое не здарыцца», — прыкладна так думае большасць падлеткаў, калі спрабуе цыгарэты, алкаголь ці яшчэ якую атруту. Яны лічаць, што лёгка справяцца з наступствамі свайго ўчынку. «З кім заўгодна, толькі не са мной… Я ж моцны, спраўлюся!» — мяркуе хлопец, спрабуючы наркатычныя рэчывы. У гэты момант ён думае, што ў яго дастаткова сіл, каб лёгка перамагчы залежнасць, з якой іншыя, нават дарослыя людзі, змагаюцца ўсё жыццё. У хлопца няма рэальнага вопыту, ведаў пра тое, як ён будзе спраўляцца з залежнасцю. Ёсць толькі ілюзія перамогі над ёю! Так саманадзейнасць не дазваляе ўбачыць цяжкіх наступстваў «першай спробы».

«У любы момант я змагу кінуць!» — упэўнена запальвае цыгарэту дзяўчына, пакуль яшчэ перхаючы ад дыму. І яна будзе казаць гэта кожны раз, запальваючы цыгарэту, на працягу жыцця, хоць бы таму, што амаль усе так кажуць. «З панядзелка я кідаю паліць», «пасля Новага года кіну», «кіну, калі захачу»… Напэўна, ты чуў падобныя фразы. Але мала ў каго атрымліваецца выконваць такія абяцанні самому сабе. Занадта моцная звычка.

Калі мяне пытаюць, чаму я не палю, адказваю: «У тым узросце, калі пачынаюць паліць, я вырашыла, што ў мяне няма той сілы волі, каб потым кінуць. Таму лепш мне і не пачынаць». Сёння я ўдзячная самой сабе: курэнне — вялікая праблема, але яе ў мяне няма. Я цаню сваю свабоду.

Калі ты вольны — не мяняй сваю незалежнасць на сяброў, якія правакуюць, хоць бы з-за таго, што калісьці самі гэтую незалежнасць страцілі. Не бойся адмовіцца, падняцца і сысці — ты сам выбіраеш сабе сяброў. Магчыма, сёння табе гэтыя зносіны падаюцца вельмі важнымі, але пройдзе час — і будуць новыя сябры. Якія, дарэчы, наадварот, могуць быць супраць шкодных звычак!

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава




Мастачка Юлія Усава

# Віртуальныя пакуты

Сяргейка азірнуўся і асцярожна ткнуў пальцам у кнопку. На маніторы з'явілася знаёмая карцінка. Ён павярнуўся яшчэ раз — нікога. Уздыхнуў і пацягнуў старонку ўверх. «Дажыўся, вось табе і маеш... — прабурчаў ён сабе пад нос любімую бабуліну прыказку. — Каму скажы, засмяюць. Дзесяцігадовы хлапец, дарослы амаль, а віртуальных пужалак спалохаўся! Вось і цяпер — чаго шукаю? На каго азіраюся? Іх і шукаю. А азіраюся... ці мала што, раптам мама завітае. Або, таго горш, бабуля. Дажыўся...»

Ён зноў уздыхнуў і злавіў сябе на тым, што аўтаматычна перастаў рухаць старонку. Таму што знайшоў і спалохаўся. На дагледжанай, упрыгожанай любімымі фоткамі старонцы «Вконтакте» зеўрала тая ж чорная дзірка. З першага погляду — глупства. Падумаеш, няўдалае фота з каравым подпісам знізу. Адзіным. Але якім! Мурашы пабеглі па спіне. Падаецца, на гэты раз яны цягнулі на сваіх натом-

леных спінах велізарныя драўняныя ствалы, якія пакідаюць на скуры крывавыя драпіны і стрэмкі. Настрой накіраваўся да кропкі замярзання. Захацелася ўсё кінуць, утыкнуцца носам у падушку і прараўці гадзіны дзве, як у дзяцінстве. Праверaны спосаб: на душы пасля робіцца спакойна і ледзь не радасна.

А ўсё з-за чаго...

На мінулым тыдні малюнак упершыню з'явіўся на старонцы. Ці мала глупстваў дасылаюць сябры-прыяцелі? Але карцінка трапілася паўторна. І яшчэ раз… Ён абурыўся: і каму так карціць? Прыгледзеўся: «А табе канец. Трапіў ты канкрэтна. Даскакаўся». І час: 11.12.13.14. Не адразу, але дайшло: яму пагражаюць. І пагрозу збіраюцца ажыццявіць праз адзінаццаць дзён.

Але за што? Хто? Чаму?

Ён дні тры ўспамінаў, каму так насаліў, але так і не згадаў. Усё больш па дробязі: суседа па парце крыху падставіў — забыўся яго сшытак у школу прынесці (адкуль дамашку спісваў); Машку з 5 «Б» неспадзявана збіў, калі ў сталовую за смажанкай ляцеў; курткі з незнаёмым хлапчуком у гардэробе пераблытаў; з пацаном з дома насупраць з-за дзяўчынкі пабіўся... Практычна ўсе канфлікты і непаразуменні былі ўрэгуляваны. Пацярпелы бок прэтэнзій не прад'яўляў. А карцінка працягвала з'яўляцца. Па тры разы на дзень. І час пад ёй, здавалася, бег куды хутчэй рэальнага.

Мурашоў даўно змянілі статкі мамантаў. Сяргейка стаў няўважлівым на ўроках, нястрыманым у размове з хатнімі, дазваляў сабе штурхнуць нагою ўлюбёную котку Люську, дрэнна спаў па начах. Абыходзіў бокам цёмныя куты. Перастаў наведваць секцыю па настольным тэнісе, каб не вяртацца прыцемкам.

З сябрамі дзяліцца сваімі віртуальнымі асцярогамі Сяргейка не мог — сорамна. Маме сказаць і таго горш — перакрые доступ да глабальнай сеткі, з нуды памрэш. Застаецца бабуля, якая нічога не разумее ў камп'ютарных замарочках.

Хіба што сам… У прынцыпе, ён адважны і самастойны. Нядзіўна, адзіны мужчына ў сям'і — надзея і апора. Хто б гэтай надзеі дапамог...

Сяргейка павольна перавёў погляд на манітор: 4.10.12.26...

***Сімпатулька:***

— Ой, бедненькі пяціклашачка! Ці ты яшчэ ў чацвёртым? Усё роўна бедненькі! Жарты з інтэрнэтам да дабра не даводзяць, я пра гэта не раз чула. Дзякуй богу, сама пакуль не трапіла ў штосьці падобнае. Ну што тут сказаць? Можа, з сябрамі ўсё ж такі абмеркаваць? Не насіць жа ў сабе да сканчэння веку! І потым, небяспека блізка (калі, вядома, не розыгрыш). Або ў міліцыю? Або старонку змяніць? Так цяпер многія робяць, імя іншае сабе прыдумаць і фота, каб не здагадаўся ніхто. Раптам пракаціць, і яны цябе не знойдуць? А калі не пройдзе... Нават не ведаю, што і параіць.

***Першакласнік з яблыкам:***

— Невязуха, брат! І я пра такія страшылкі чуў. Хоць не заходзь у інтэрнэт. Праўда, мяне аднаго туды ніхто не пускае. То мама побач сядзіць, то тата. І час абмяжоўваюць. І нейкі «бацькоўскі кантроль» паставілі. А можа, правільна

робяць? Я б на тваім месцы тры разы ад страху памёр. Можа, пагавары ўсё ж такі з мамай? Мамы дрэннага не раяць. У інтэрнэт адзін не заходзь пакуль. Хоць з бабуляй, усё не так самотна. Яблычак хочаш? Кажуць, яблыкамі добра заядаць стрэсы. Здаецца, у цябе гэты самы стрэс. Трымайся, сябар!

***Вопытны псіхолаг:***

— Лёгкасць і даступнасць інтэрнэт-зносін дазваляе карыстальнікам махляваць у сеціве. На жаль, не толькі махляваць. Падобна на тое, што ты сутыкнуўся з тролінгам... Але давай пачнём з таго, што ў складаных жыццёвых сітуацыях неабходна знайсці сабе памочніка, калі не дарадчыка, то хаця б слухача. А лепш кампетэнтнага ў справе чалавека, здольнага знайсці канструктыўнае рашэнне тваёй праблемы. Ты разумееш, што сам не зможаш яе пазбавіцца? Ужо добра!

Зрабі наступны крок: падзяліся. Можна з мамай. Можна з бабуляй, можна з сябрамі. Ніхто з іх цябе не з'есць. Блізкія людзі здольныя суперажываць і абараняць адзін аднаго. А з праблемай, звязанай з камп'ютарам, справіцца любы настаўнік інфарматыкі. Звярніся: ён абавязкова падкажа, што рабіць. І табе проста неабходна зайсці да сацыяльнага педагога. Упэўнена, ён знойдзе ўправу на хулігана.

***Прасунуты старшакласнік:***

— Няўжо троляць? Во даюць! Я пакуль толькі завочна з гэтай дрэнню сустракаўся. Тэарэтычна, так бы мовіць. Трэба будзе зазірнуць да цябе на старонку. Спасылачку дасі? Што ж датычыцца праблемы, дарма так доўга цягнеш. Запомні: ты ў сеціве не адзін. Дастаткова было пракаментаваць гэтую пужалку — і сябры падхапілі б эстафету. Твайму тролю хапіла б. Не думаю, што табе пагражаюць сур'ёзна, хутчэй за ўсё забаўляюцца лайдакі. Але, хачу заўважыць, вядзеш ты сябе неадукавана. Ты хоць урыўкамі правілы карыстальніка чытаў? Ці падпісаўся, не гледзячы? Дарма. Там цікавыя рэчы прапісаны. І карысныя. Зазірні ў вольны час. І ад слоў да справы: у сеціве ёсць адміністрацыя, якая клапоціцца пра дабрабыт і бяспеку карыстальнікаў. Досыць знайсці ў верхнім радку (калі ты «Вконтакте», то на сіняй паласе, побач з «выйсці») слова «дапамога», націснуць і прайсці ў дыялогавае акно. Пачынай скардзіцца на здароўе! Жартаўніка выведуць на чыстую ваду за некалькі гадзін. І заблакіруй зламысніка ў сябе на старонцы, няма чаго яму здзекавацца над людзьмі. Можна яшчэ абмежаваць доступ да старонкі. І не забудзься да сацыяльнага педагога забегчы: калі не жарт, то вырашаць праблему трэба на мясцовым узроўні. Удачы!

***Бабуля з пруткамі:***

— Ой, унучак родненькі, чым жа я табе дапамагу, калі нічога тута не бачу? Літаркі дробненькія і малюнак не зразумець. Лепш я піражкоў пайду напяку. Або ватрушак, хочаш? Я імгненнем. А сам-та лепш бы кніжку ўзяў. Там і літаркі буйней, і карцінкі зразумелыя. Дай-ка пацалую...

# Гонар школы, або Навошта нам гэтыя алімпіяды?




***У настаўніцкай Мар'інагорскай гімназіі Алена Анатольеўна Парфёнава, настаўніца інфарматыкі, і Алена Іванаўна Дылеўская, настаўніца матэматыкі. Размова ідзе пра жах для вучняў і надзею для настаўнікаў — алімпіяды.***

***А. А.:*** Нават не першае месца на алімпіядзе — гэта стымул. Вучні, якім не хапіла паловы бала да прызавога месца, ад'язджаючы, кажуць: «У наступным годзе прыедзем, каб быць першымі». Прыязджаючы ў наступны раз, дзеці ведаюць парадак абароны працы: вучань прадстаўляе сваю задачу, а потым на яго накідваюцца з пытаннямі і заўвагамі, а ён вучыцца бачыць недахопы. Ёсць нейкая сістэма,

якая заўсёды спрацоўвае: удзельнічаеш упершыню — нічога не зоймеш. Толькі калі вельмі пашанцуе. Але ў любым выпадку павінна быць адчуванне ўласнага поспеху. Тады прачынаецца азарт.

*А. І.:* Для алімпіяд я падбіраю дзяцей, якім цікава не толькі рашаць задачы, але і знаходзіць цікавосткі. Пачынала ўвогуле з выяўлення ўзроўню IQ з дапамогай камп'ютарнай праграмы-гульні. Спачатку на дадатковыя заняткі дзяцей прыходзіла шмат, але своеасаблівы адбор сфарміраваў невялікую каманду з вучняў 5—7 класаў, якіх я ўжо мэтанакіравана рыхтую да алімпіяд і конкурсаў.

*А. А.:* Увогуле, 5—8 класы — гэта найлепшы ўзрост для ўдзелу ў алімпіядах. І розум гнуткі, і можна нечым заахвоціць. Старэйшыя ўжо кажуць: «Адчапіцеся, навошта нам алімпіяды?» Бо нехта з іх заканчвае музычную школу, нехта ўжо рыхтуецца да паступлення. Падсоўваеш кніжкі, кажаш: «Пачытай, табе ж гонар гімназіі абараняць» — і чуеш: «Я ўжо ўсё пачытаў, усё рашыў».

*А. І.:* Можна, канешне, стукнуць кулаком па стале і прымусіць займацца, але гэта не надта дапаможа. Вучань зробіць выгляд, што працуе, але вынікаў гэта не дасць. Вельмі важнае тут паняцце «планкі». Гэта калі чалавек нечага дасягае і далей не можа дазволіць сабе апусціць свой узровень. Але шмат хто апускае «планку», бо проста стамляецца. Да таго ж, вельмі шмат залежыць ад бацькоў, іх падтрымкі, у тым ліку і фінансавай, бо значная частка конкурсаў і алімпіяд цяпер платная. Як варыянт матывацыі — павышаць бал удзельнікам алімпіяды. Ідзеш ты, напрыклад, на «дзявятку», а маеш шанец атрымаць «дзесяць». Задачы, якія рашаюцца на алімпіядах, — нестандартныя, «з зорачкай», таму ўсё справядліва.

*А. А.:* Калі вучні прыходзяць самастойна займацца ў камп'ютарны клас, напрыклад, матэматыкай, яны нават не сваволнічаюць. Ім цікавей пусціць гэты час на пошук задач у інтэрнэце. Нават калі тыя адразу з рашэннямі, гэта таксама вучоба. Я звычайна не перарываю працэс, толькі назіраю: сядзяць з сур'ёзнымі тварамі, самі з сабой размаўляюць. Толькі чуеш чыё-небудзь здзіўленае: «Ды ладна! Не можа быць!» — спрачаюцца з інтэрнэтам. Урок у прывычным фармаце сам сябе вычэрпвае. Вучняў трэба нечым заахвочваць, забаўляць, весяліць, даваць нешта разнастайнае. Загад: «адкрылі сшыткі, запісалі тэму» ўжо не працуе. Задачкі можна абмеркаваць на форуме, ці рашыць і даслаць настаўніку на электронную пошту. Мы ўпэўнены, што ў інтэрнэце вучань не займаецца глупствамі, а перш за ўсё вучыцца. Бацькі кажуць: «Сядзіць і сядзіць за камп'ютарам, думаю, зусім загуляўся, падыходжу — а там чарцяжы».

*А. А.:* Яшчэ адзін неабходны складнік — творчы настаўнік. Нават тэарэтычны матэрыял трэба падаваць прыгожа, эстэтычна, цікава. Ведаю шмат прыкладаў, калі дзяўчаты-студэнткі ледзь не па сто задач за гадзіну рашалі, але настаўнікамі не сталі, бо не маюць творчага мыслення, не ўмеюць растлумачыць, як рашыць задачу. Матэматыкі з іх моцныя, а настаўнікі — ніякія. У кагосьці голас такі ціхі, што ля дошкі не чуваць, хтосьці не ўяўляе, як гэта — перад цэлым класам стаяць, калі на цябе глядзяць, ды яшчэ нешта тлумачыць. Трэба быць і творчым, і адкрытым для сучасных тэхналогій.

*А. І.:* Вучань без настаўніка існуе, настаўнік без вучня — не.

***Падслухалі Кацярына Захарэвіч і Тамара Мінютка***




# Тэорыя адноснасці. Не Эйнштэйна, а Сэпіра-Уорфа

«Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор — мова», — піша беларускі пісьменнік Алесь Разанаў. Сапраўды, вось яна, народная творчасць у чыстым выглядзе. Са стагоддзя ў стагоддзе, з пакалення ў пакаленне пераходзілі словы. Яны ўвабралі ў сябе звычаі, прыкметы, адносіны да пэўных з'яў, характары сваіх носьбітаў. У кожнай мове засталася душа народа, што яе склаў, і душа тая трапляе да нашчадкаў праз маўленне. Калі сказаць усё гэта па-навуковаму, атрымаецца тэорыя лінгвістычнай адноснасці Сэпіра-Уорфа.

Гэтыя навукоўцы — Эдвард Сэпір і Бенджамін Лі Уорф — вырашылі, што мова ўплывае на бачанне рэчаіснасці і стварае непадобныя адзін да аднаго вобразы

свету. Уяві, што перад табой ляжаць акуляры розных колераў. Адзяеш першыя, другія, трэція — карціна перад вачыма застаецца нязменнай, але адценні… Яны належаць акулярам.

Адценні — свядомасць чалавека, на якую ўплывае мноства фактараў. Чаму б і не мова? Даказаць неаднолькавае ўспрыманне адных і тых жа рэчаў рознымі народамі вельмі проста. Напрыклад, адносіны да свят. На Беларусі свята — «святы дзень», бо раней амаль усе чырвоныя лічбы ў календары былі звязаны з царквой. У Расіі ў такім выпадку выкарыстоўвалі слова «праздник» — «праздный день», дзень, калі можна нічога не рабіць. Рацыю маюць абедзве краіны, але ж пункты гледжання істотна не супадаюць. Яшчэ возьмем Вялікдзень. У нас гэта «вялікі дзень», а суседзі-палякі кажуць Wielkanoc — «вялікая ноч». Зноў быццам у розныя бакі глядзім.

Гукі паўсюль таксама ўнікальныя. Вось, здаецца, чуюць людзі адно і тое, але кожная мова гэтыя гукі перадае па-свойму. Прасцей за ўсё ўбачыць гэта сярод гукаперайманняў. Ведаеш, што па-беларуску чмель не жужжыць, як жук, а важна гудзе «бом-бом»? Бомкае. А жаба кажа не толькі ўсім вядомае «ква-ква», але і «кум-кум». Сядзіць у балоце і кумкае ўвечары. «Ур-ур» у нашай краіне пачуеш не ад задаволенага коціка (ён мурлыча і курняўкае, калі пачухаеш за вушкам), а ад голуба. Выйдзі на вуліцу ды пачастуй яго хлебам, каб паслухаць, як голуб буркоча.

*Самы рэдкі колер вачэй у чалавека — зялёны. Яго маюць толькі два працэнты насельніцтва Зямлі.*

З жывёламі ўвогуле ўсё складана. Назавеш польскую дзяўчыну жабкай — і яна пачырванее ад задавальнення, бо «жабка» — гэта камплімент. Скажаш тое самае сваёй аднакласніцы — і, у лепшым выпадку, атрымаеш падручнікам па галаве за такую знявагу. У адказ на прыемнасць палячка скажа: «Дзякуй, мой чарвячок». Яе суайчыннік ацэніць пяшчоту ў выказванні, а вось беларус наўрад ці здагадаецца, што трэба ўсміхацца і дзякаваць ёй за пахвалу. Там, дзе ў Расіі заўважаць: «Воробью по колено», на Беларусі — кату па пяту. Вераб'ям тут толькі гультаі фігі паказваюць: гэта калі нехта замест працы лынды б'е.

Прыказкі і прымаўкі ўвасабляюць самабытнасць мовы. Там, дзе рускі чалавек паваліцца са смеху, сапраўдны беларус паедзе з рогату. Сцены ў нашых хатах вушэй не маюць, а вось выйдзеш на двор, дык лес чуе і поле бачыць. Геаграфія ў прыказак асобная: па-руску кажуць «язык до Киева доведет», па-беларуску — «язык Вільні дапытае». Дарэчы, любілі нашы продкі Вільню згадваць: «не за дзень Вільня станавілась», «рабі пільна — і тут будзе Вільня», «за рубель жабу ў Вільню пагоніць»…

Свет вялікі, і ў ім мільярды светапоглядаў. Цікава вучыць замежныя мовы і разам з імі заўважаць нешта нечаканае навокал. Яшчэ цікавей знаходзіць новае ў самім сабе падчас падрабязнага знаёмства з роднай мовай. Можна перамераць мноства каляровых акуляраў, але хадзіць у іх кожны дзень — цяжкая праца. Дык лепш апрануць правераныя, што надаюць жыццю адценне тваёй рэальнасці.

***Дар'я Чарняўская***

Чытаем ікону



***Архістратыг Міхаіл,***
***сярэдзіна XVIII стагоддзя.***
***Нацыянальны мастацкі музей.***

# Архангел Міхаіл

Сябры, 21 лістапада праваслаўныя хрысціяне святкуюць Сабор Архістратыга Міхаіла і іншых Нябесных Сіл бясплотных. Сёння мы з вамі паспрабуем зразумець, хто такія анёлы і чаму Міхаіл сярод іх — Архістратыг. А дапаможа нам у гэтым старажытны беларускі абраз XVIII стагоддзя.

Вядома, што ўсе нябесныя сілы называюць анёламі. Анёл — значыць «веснік». Гэта адлюстроўвае прызначэнне анёлаў — даносіць да людзей Божую волю

і быць іх абаронцамі. А каб падкрэсліць хуткасць, анёла заўсёды выяўляюць з крыламі, якімі ён яшчэ і ахінае чалавека, засцерагаючы ад бяды. Вышэйшым над усімі анёламі з'яўляецца Архангел Міхаіл. Ён выконвае ролю галоўнакамандуючага, па гэтай прычыне яго называюць старажытным грэчаскім ваенным тытулам — АРХІСТРАТЫГ. Прыгледзьцеся, і вы заўважыце, што на іконе Архангел Міхаіл апрануты як сапраўдны абаронца. На ім ваенны даспех — кіраса. З правага пляча спускаецца чырвоны ваенны плашч, які нагадвае плашч рымскага воіна-легіянера. А ў руцэ архангел трымае меч. Але гэтая зброя мае сімвал духоўнай, а не фізічнай барацьбы. Меч ці кап'ё ў руцэ архангела сімвалізуе любоў. На шматлікіх іконах Архангел Міхаіл з лёгкасцю забівае чорта кап'ём ці мячом, таму што цёмныя сілы знікаюць толькі тады, калі ім супрацьстаіць сапраўдная любоў.

А што Архангел трымае ў левай руцэ? Гэта празрысты шар, які называецца «зерцала». Залатымі літарамі ў ім скарочана напісана імя Бога — Ісус Хрыстос Збавіцель. Атрымліваецца, што ў зерцале Архангел заўсёды мае пры сабе Божы вобраз. Па коле зерцала срэбранымі літарамі напісаны тры словы: Хто, Як, Бог. Для таго, каб зразумець сэнс гэтых слоў, трэба ведаць, што само імя Міхаіл са старажытнаяўрэйскай мовы так і перакладаецца — «той, хто як Бог».

Перад іконай «Архангел Міхаіл» беларускія вернікі ўзносілі свае малітвы, просячы дапамогі ў вайсковай справе, вырашэнні спрэчных сітуацый, абароне ад любой бяды. Таму што ён — той, хто як Бог.

***Дзмітрый Салодкі,***
***навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея***

## Малітваслоў



### *МАЛІТВА ПАСЛЯ ПРЫНЯЦЦЯ ЕЖЫ*

*Дзякуем Табе, Хрысце Божа наш, што Ты насыціў нас зямнымі Тваімі дабротамі, не пазбаў нас і нябеснага Твайго Царства, але як Ты прыйшоў да вучняў Тваіх, Спасіцелю, мір даючы ім, так прыйдзі і да нас і спасі нас.*

### *МАЛІТВА ПЕРАД ПРЫНЯЦЦЕМ ЕЖЫ*

*Вочы ўсіх да Цябе, Госпадзі, звяртаюцца з надзеяй, і Ты даеш ім ежу своечасова, адкрываеш Ты шчодрую руку Сваю і насычаеш усё жывое спагадліва.*

# Царква знутры




***Прытвор*** — месца непасрэдна перад уваходам у храм — сімвал грахоўнай зямлі. ***Сярэдняя частка храма*** — памяшканне для мірскога люду — сімвалізуе ўсю зямлю і параўноўваецца з целам чалавека. У сваю чаргу, ***алтар*** сімвалізуе душу. Гэта месца таемнага знаходжання Госпада Бога, галоўная частка царквы. Самае важнае тут — ***прастол***, які мае выгляд чатырохвугольнага стала і ўтрымлівае галоўны свяшчэнны прадмет храма — асвечаны шаўковы плат з выявай Хрыста ў труне і зашытымі часцінкамі мошчаў святога. Сярэднюю частку храма аддзяляе ад алтара ***іканастас*** — перагародка з размешчанымі на ёй у пэўным парадку абразамі, сімвал Царквы нябеснай, якая мяжуе з зямной. ***Рызніца*** прызначаецца для захоўвання богаслужэбнага аблачэння. У ***панамарцы*** распальваюць кадзіла для царкоўнай службы, сюды ж прыносяць царкоўныя запіскі і свечкі, тут жа знаходзяцца розныя прыстасаванні для службы, найперш літургіі. Не накрытая дахам пляцоўка перад уваходам ва ўнутраны прытвор — гэта ***паперць***, або знешні прытвор, або атрыум.

*Мікола Шабовіч*

# Мы губляем сябе…
## а ці знойдуць нас потым?



### МОВЕ

У светлы хорам да распяцця
Прыходжу я ў каторы раз
І паўтараю, бы закляцце,
Малітву на святы абраз.

А свечка ціха дагарае,
І ў цемру ночы за парог
Суровы цень ідзе, знікае...
Няўжо яго я не зберог?

***

Гавораць, старое вяртаецца
І сёння найноўшая тэма,
Што ў моду укараняюцца
Сукенкі з народнай эмблемай.

Сучаснік! З любоўю да краю
Гляджу я на гэту карціну
І ў думках сабе ўяўляю
«Вяртанне блуднага сына».

## Я ІДУ…

За недалётам — пералёт.
Узлёты… а затым падзенні…
На свеце недзе галалёд —
Не галалёдзяцца Бадзені.

Іду дарогай. Холад знік,
І на душы мне светла-светла,
І па-сяброўску маладзік
Са мной вітаецца прыветна.

Мне сэрца кажа: «Смела руш!»
І я іду, і ганаруся,
Што ёсць на свеце Беларусь,
Што я — крывінка Беларусі.

***

Усё было, усё было:
І ў спёку вільгаці калодзеж,
Скакалі птушкі на калодзе,
А потым сцежкі замяло.

Гулялі доўга ля ракі,
І вочы прагнулі блакіту.
Ты не пыталася: «Які ты?»,
Бо добра ведала які…

Так хутка лета адцвіло.
Цяпер мяцеліца гуляе,
Страчацца нам не дазваляе...
Усё было, усё было...

***

Бялее даль, бы просціны навокал
Раптоўна зацягнулі далягляд.
Так светла, што, куды ні кінеш вокам,
Здаецца: расцвітае белы сад.

І вось па гэтай белі ходзяць людзі,
Сняжынкамі пранізваюць Сусвет...
Няўжо яны прыгожае забрудзяць?
Няўжо яны пакінуць чорны след?..

## НАРАДЖЭННЕ КАХАННЯ

Калі зіма падкралася аднойчы
І белым срэбрам зацягнула лозы,
Знайшоў шчаня прымерзлае ўжо
хлопчык
І ў цёплы дом прынёс яго з марозу.

Ішлі гады, іх дружба з кожным годам
Мацнела, і найлепшымі сябрамі
Былі яны, не раз адзін другога
У цяжкую хвіліну ратавалі.

Але, паўз лес гуляючы вясновы,
Яны дзяўчыну напаткалі раптам,
І гаспадар у хату леснікову
Пайшоў за ёй, пакінуўшы сабаку.

А той у вокны кідаўся да рання,
Не мог разважыць галавой сабачай,
Што гэта нараджалася каханне,
Што гэта прачыналася юнацтва.





***

Мы губляем сябе
У штодзённых турботах,
Мітусні магазінаў
І спрэчках пустых.
Мы губляем сябе,
А ці знойдуць нас потым,
Бо чамусь не знаходзяць
Вандроўнікаў тых,
Што прайшлі па зямлі,
Не пакінуўшы следу,
Не спазнаўшы, што значыць
«Да сёмага поту»...

Мы губляем сябе
У штодзённых турботах…

Мы губляем сябе…
А ці знойдуць нас потым?

*Паэзія Міколы Шабовіча — вельмі лірычная і ў той жа час філасофская, хоць нямала сярод ягоных твораў і гумарыстычных вершаў, і вершаваных пародый. А шмат што дзякуючы беларускім кампазітарам ператварылася ў песні.*

## З НАГОДЫ ЛІСТА З АДНОЙ РЭДАКЦЫІ

Мне сказалі, што верш сыраваты,
Толькі ўсё ж невядома, як быць:
Ці то сам я ва ўсім вінаваты,
Што на печы забыў падсушыць,
Ці прамоклі па пошце дарогай…
Разабрацца ж патрэбна найперш!..

Ды сказалі з рэдакцыі строга:
«Сыраваты пакуль яшчэ верш!»

## ВУЛІЧНЫ ЛІХТАР

Цёмная ночка туліцца,
Сэрца мароз напоўніў.
Круглы ліхтар вулічны —
Быццам бы месяца поўня.

Шчасце такое ж поўнае:
Мерзну пад інтэрнатам.
Гэта ўсё ж не галоўнае —
Акно тваё высакавата.

Спіць недачэпа-вахцёрша,
Груку майго не дачуецца.
«Чаго так рана прыпёрся?
Ці не хапае вуліцы?» —

Так бы яна сказала…
Я не хачу абразы.
«Вуліцы, цётка, мала», —
Запэўню другім разам…

Ціха світанак будзіцца:
Ночы не быць бясконца…
Круглы ліхтар вулічны —
Нібы зімовае сонца.

***Мастачка Анастасія Хадакоўская***

*Алег Ждан*

# Прынцэса

*Заканчэнне*

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ КЛАСНАЙ

У нашай класнай дзень нараджэння. Пасля ўрокаў мы сабраліся каля школы: што падарыць? Як павіншаваць?

— Самавар! — адразу прапанаваў Пельмень.

— З чаго б гэта — самавар? — здзівілася Ленка. Мы таксама здзівіліся.

— Маёй бабулі падаравалі самавар, яна задаволена.

— Бабулі? Зразумела. А ты ведаеш, колькі самавар каштуе? Дзе мы возьмем столькі грошай?

— Тады прас! — сказаў Пельмень.

— А прас чаму?

— Бацька летась маме падарыў, — патлумачыў ён.

— Ну ты даеш, — сказаў Юра. — А дзядулю нічога не падарылі? Не трэба ніякіх рэчаў. Падарым букет кветак і каробку цукерак. І хто-небудзь скажа словы віншавання.

— Я скажу, — адразу ж выказаўся Пельмень, а ўсе засмяяліся.

— Чаго ржаце, як коні?! — пакрыўдзіўся ён.

А мы засмяяліся яшчэ грамчэй. Вядомая справа, Пельмень — не Цыцэрон.

— Ленка, давядзецца табе гаварыць.

І Ленка ад задавальнення пачырванела.

І гэты дзень прыйшоў. Грошай у нас хапіла і на вялікую каробку цукерак, і на прыгожы букет кветак. А Ленка апранулася як на тэлевізійны кастынг і выступіла з прамовай. «Ніна Леанідаўна, — сказала яна, — вы самая добрая і самая прыгожая. Мы вас паважаем, любім і віншуем!» І мы ўпершыню ўбачылі, як Ніна Леанідаўна разгубілася, відаць, таму, што і каробка цукерак і букет былі дужа вялікімі. «Рабяты… рабяты… — няўпэўнена паўтарала яна. — Што вы на самай справе? Гэта вы дарэмна… ну, дзякуй… дзякуй…» Ленка пайшла на сваё месца, і тады выскачыў Мішка Пельмень.



— Эх, шкада — не самавар! Кожны дзень п’еш, кожны дзень успамінаеш! І прыгожа! Канешне, прас не трэба, а самавар — выдатна!

І сеў. Мы зразумелі, пра што ён гаварыў, а Ніна Леанідаўна не. Хаця, магчыма, яна і здагадалася.

Ну, думаем, сёння ва ўсіх будуць дзявятачкі і дзясятачкі! На крайні выпадак — васьмёркі. Увесь дзень свята!

— Та-ак, — працягнула Ніна Леанідаўна, — праверым хатняе заданне… Сідарчук, да дошкі!

Эх, пашчасціла Пельменю!..

Але…

Думаеце, атрымаў Пельмень дзясятку? Дзявятку? Васьмёрку? Сямёрку? Не! Ну і не кол, не двойку…

— Міша, я табе сёння паставіла кропку ў журнале, — сказала Ніна Леанідаўна. — Заўтра выклічу. Не падрыхтуешся — атрымаеш кол.

— Падрыхтуюся! — закрычаў Пельмень. — Яшчэ як падрыхтуюся! На дзявятку! На дзясятку! Я слоў на вецер не кідаю! Я…

Але тут зазвінеў званок.

— Эх, якая ў нас класная! — сказаў Пельмень на перапынку. — Самая добрая!

Вось табе і адкрыў Амерыку. Мы гэта ведаем даўным-даўно.

## ПРАЎДУ І ТОЛЬКІ ПРАЎДУ

Перад вясеннімі канікуламі Куля, матэматыца, прыйшла ў наш клас надзвычай заклапочаная.

— У мяне да вас нечаканая прапанова, — сказала яна. — Напішыце ўсё, што вы думаеце пра мяне. Праўду і толькі праўду.

— Ага, — сказаў Юра. — Мы напішам, а вы…

— Ананімна. Гэта значыць, без подпісу. Я на самай справе хачу гэта ведаць.

— Навошта гэта вам, Тамара Мікалаеўна?

— Вельмі трэба. Хачу ведаць, якая я на самай справе.

— А вы не ведаеце?

— Я сумняваюся.

І Тамара Мікалаеўна раздала нам лісткі, вырваныя са сшытка.

— А шмат трэба напісаць?

— Хаця б адзін сказ. Напрыклад, «я вас люблю» ці «я вас ненавіджу».

— Ну, Тамара Мікалаеўна, вы нас забіваеце! Мы так не выказваемся.

— Калі ў мяне ёсць якая мянушка, таксама пішыце. Нават калі крыўдная.

Тут мы пачалі пераглядвацца. «Куля» — крыўдная ці не вельмі? Не, крыўдзіць яе нам не хацелася. Аднак люблю і ненавіджу таксама не да месца. А вось напісаць пра тое, што яна нас зусім не заўважае, што за ўвесь год ніводнага разу не ўсміхну-

***У Амерыцы стварылі ручку, якая можа размаўляць на англійскай мове, выпраўляць памылкі і рабіць пераклад з англійскай на іспанскую і наадварот. Прадаецца ў наборы са спецыяльнай паперай.***

лася — было б правільна. Хаця... Канешне ж, сілай усміхацца не прымусіш. Які характар, такая і ўсмешка.

— Калі вы лічыце, што дрэнна тлумачу — пішыце, калі нясправедлівая — тым болей.

— Цікава-цікава! — праспяваў Юра.

Хаця, яму непакоіцца няма чаго, па матэматыцы ён у класе, а можа, і ў школе — першы. Куля яго любіць, і ён яе паважае. Хаця мянушку такую прыдумаў менавіта Юра. А яшчэ і «разрыўная куля», калі хто не слухае тлумачэнняў ды перашкаджае праводзіць урок.

— А калі пісаць?

— Зараз. Праўду пісаць трэба без падрыхтоўкі.

Відаць, гэта правільна, але зусім ужо без падрыхтоўкі не атрымліваецца. А падумаеш, што і як напісаць, — атрымаецца падманваеш? На самай справе, цікава ўсё атрымліваецца!

Усё ж пачынаем!

Я азірнуўся. Хто язык высалапіў ад старання, хтосьці вочы вылупіў, нехта шчокі раздзімае як мячы. Пайшоў працэс мыслення. Аднак, як жа цяжка гаварыць праўду!

На перапынку мы збіліся ў кучу: хто і што напісаў? Высветлілася, што настаўніца Куля добрая, тлумачыць нармальна, а вось за справядлівасць ёй — сямёрачка, самае вялікае — восем. Карацей, шкадуе адзнак. Нават Ленка пагадзілася — скупая. Калі б да кожнай адзнакі дадавала адзін бал — было б правільна і добра.

На наступны дзень Куля прыйшла ў наш клас перад урокам і наўздзіў для нас усміхнулася.

— Дзякуй, — сказала яна. — Цяпер буду ведаць, якая я гадкая і пачварная.

— У-уу! О-оо! А-а! Ы-ыы! — закрычалі і загудзелі ўсе мы. Маўляў, зусім не. Можа, нават наадварот. Любім і паважаем.

Хаця... Жарты мы ўсе разумеем. Гэта і хацелі сказаць. А лятаць куляй яна не перастала.

## ВЫ ЯШЧЭ БУДЗЕЦЕ МНОЙ ГАНАРЫЦЦА

Але тут абрынулася на нас навіна болей сур’ёзная, чым палёт на Марс пры ўмове, што ты не вернешся на Зямлю. Ці, на крайні выпадак, раўназначная такому палёту. Ад навіны гэтай у сяго-таго сківіца адвалілася, а ў некага вочы з арбіт павыскоквалі, хто проста не зразумеў ці не паверыў: як гэта? Не можа быць! Я, напрыклад, не паверыў.

— Ты што, Мішка? Што такое вярзеш?

— Гэта праўда, Прынц? — запытаўся Юра.

Пельмень маўчаў.

Нават Ленка здзівілася і спалохалася.

— Міша, — ціха, але досыць выразна прамовіла яна, — скажы, што ты жартуеш!

Вось табе і агуркі з памідорамі.

Аказалася, што Пельмень сыходзіць з нашай школы. Што яго бацькі купілі кватэру ў другім раёне горада.

— І калі, Мішка?

— Ды ўсё ўжо, пацаны. Заўтра пераязджаем.

Цяпер усе змоўклі.

— Што ж ты маўчаў да гэтай пары? — абурылася Ленка.

— Дык я і сам не ведаў. Размову бацькі вялі, але я думаў, што гэта няхутка. А можа, і зусім… Пагавораць ды забудуцца. Яны ўжо даўно пра гэта гавораць. Колькі помню. А тут — бац і вырашылі.

Таа-ак…

Тут празвінеў званок, мы пайшлі ў клас. Быў урок рускай мовы. Ну, урок як урок… Вось толькі нецікава. Некага Ніна Леанідаўна да дошкі выклікала, нешта тлумачыла… І раптам запытала:

— Што з вамі сёння? Што здарылася? Эй, Лена! — яна заўсёды, калі якая праблема, звярталася да Ленкі.

— Ніна Леанідаўна, Пельмень сыходзіць са школы.

— Як гэта — сыходзіць?.. Чаго маўчыце?.. Міша, што яны гавораць?

— Гэта праўда, Ніна Леанідаўна. Кватэру бацькі купілі. У Зялёны Луг пераязджаем.

І тады Ніна Леанідаўна падышла да яго, як маленькага пагладзіла па галаве.

— Як жа мы будзем без цябе, Міша? А як ты без нас?

Гэта, канешне, жарт. Ясна, што мы выжывем без Пельменя, і ён не прападзе без нас. А ўсё адно: як гэта?.. Восем гадоў сустракаліся кожны дзень, а тут…

Але жыццё працягваецца. Гэта значыць, працягваецца звычайны школьны дзень. Наступным урокам была хімія. Ну, хіміца ўвогуле мала звяртала на нас увагі і нічога не заўважыла. Ды мы ўжо больш-менш прыйшлі ў сябе. А вось на вялікім перапынку ў клас уварваўся фізрук Яўгеній Іванавіч, схапіў Пельменя за каўнер кашулі, здавалася, будзе душыць.

— А спартакіяда? — закрычаў ён. — А гонар школы? Ты тут восем гадоў вучыўся!.. Будзеш за Зялёны Луг выступаць? Здраднік! Цьфу! Спадзявайся на вас! — і грымнуў дзвярыма.

Зразумела, да спартакіяды заставалася два тыдні, а Мішка, што ні кажы, у футболе фігура нумар адзін. «Пель-мень! Пель-мень!» — здаралася, грымеў школьны стадыён. А што цяпер?

А вось Куля ўсміхнулася сумна і кісла.

— Сыходзіш? — і, відаць, упершыню ўважліва паглядзела на Пельменя. — Шкада.

— Ды ладна, Тамара Мікалаеўна, — сказаў Пельмень. — Навошта я вам? Гэта вось Юра… ці Ленка… А я ў матэматыцы ні бум-бум.

— Затое ты лепш за ўсіх спісваеш задачы.

Пельмень заўсміхаўся: што ёсць, тое ёсць. Спісваў задачкі ён па-майстэрску: дай толькі на мінутку сшытак. А калі выклікалі да дошкі, па вуснах прачытваў падказкі.

— Ты, канешне ж, не геній, а ўсё роўна — шкада.

Пельмень задаволена ўсміхнуўся: ніколі яшчэ Куля не надзяляла яго такой увагай. Дарэчы, не толькі яго. Яна такая: пытанне — адказ, пытанне — адказ. І ніякага асабістага жыцця.

— Вы яшчэ будзеце ганарыцца мною, — сказаў Пельмень.

— Вельмі можа быць, — пагадзілася Куля.

Нават Іван Сяргеевіч, дырэктар, зазірнуў у наш клас. Пастаяў на парозе, сярдзіта гледзячы на Мішку, але нічога не сказаў. Гэта яму, канешне ж, наскардзіўся фізрук. Але што зробіш? Жыццё ёсць жыццё. І калі Пельмень стане чэмпіёнам свету, яны забудуцца пра здраду, стануць ганарыцца і расказваць пра яго. Нават Куля будзе расказваць, які выдатны быў вучань, як выцягваў шыю на кантрольных у чужы сшытак і па вуснах прачытваў любую тэарэму.

Пасля ўрокаў развіталіся як звычайна, без усялякіх сантыментаў, і толькі Ленка раптам прыцягнула яго за доўгую шыю і цмокнула ў лоб.

— Які ты даўгалыгі, — сказала яна.

Толькі ў панядзелак, калі ўбачылі, што Пельменя няма ў класе, мы ўсвядомілі, што ён з'ехаў.

Што за жыццё! Вось так раптам можа ўсё памяняцца!.. А калі я не хачу? Не хачу жыць на другім канцы горада, у другім раёне, няхай сабе і самым лепшым, не хачу хадзіць у другую школу, а галоўнае — не хачу губляць сяброў! Пельмень нічога такога не гаварыў, але я ўяўляю, як ён не хацеў!..

Дома, за вячэрай, я так задумаўся пра ўсё гэта, што паднёс лыжку да адкрытага рота і замёр.

— Пашчу закрый, — сказаў бацька.

— Нешта здарылася? — спытала мама.

— Еш, унучак, еш, — сказала бабуля.

Не, нешта не тое адбываецца ў свеце. Не па правілах. Ці — па другіх правілах, не так, як мы жылі да гэтага часу.

— Пельмень сышоў са школы. Яны пераехалі ў Зялёны Луг.

— Памянялі кватэру?

— Так.

— Што ж, — сказала мама, — праз тры гады вы ўсе развітаецеся адзін з адным.

Развітаемся?.. Праз тры гады? Ды ні ў якім разе! Як гэта — развітаемся?.. Ну, не ведаю.

Між іншым, Міця, мой брат, нічога не сказаў. Ён сёлета заканчвае школу і лепей за ўсіх разумее мяне.

***Раніцай чалавек заўсёды крыху вышэйшы, чым вечарам. Гэта таму, што за дзень міжпазваночныя дыскі сціскаюцца, а за час начнога адпачынку прымаюць ранейшы аб'ём.***

## ЯК У МОРЫ КАРАБЛІ

Увесь тыдзень, калі ўваходзілі ў клас, кожны глядзеў на парту, за якой сядзеў Пельмень. Быццам ён мог з'явіцца.

— Цікава, як ён там…

— Не прападзе, — сказаў Юра.

— А чаго яму там прападаць? Адаб'ецца, калі што.

— Ну, усё ж новы клас…

— Ну і што? Радавацца павінны — такі пацан.



Аднойчы ў Ленкі зазвінеў тэлефон.

— Пельменьчык! — расквітнела яна, зірнуўшы на дысплей, і выбегла з класа, каб не перашкаджалі ёй гаварыць.

А мы з Юрам толькі перазірнуліся. Вось табе і агуркі з памідорамі.

Дзень быў як дзень. Каму дзявятка-дзясятка, а каму і кол. Але не-не, ды і паглядвалі ўсе на парту Пельменя.

— Усё ж яго не хапае ў класе, — сказала Ленка па дарозе дадому. — Трэба будзе з'ездзіць да яго ў нядзелю. Ці запрасіць сюды.

— Я бачу, ты жыць не можаш без Пельменя, — сказаў Юра.

— Як ты здагадаўся? — прамовіла Ленка.

— Можа, і замуж за яго пойдзеш пасля школы? Спытаў Юрка і насмешліва скрывіў вусны.

— А чаму б і не, — адказала Ленка. — Ён сапраўдны. Не тое, што некаторыя!

— А я б таксама за яго пайшла! — раптам заявіла Каця.

Настрой у Юры сапсаваўся ўшчэнт: ён быў закаханы ў Кацю і Ленку адначасова. І абодвух раўнаваў да Пельменя.

— Давайце-давайце, — сказаў ён. — Абедзве і адразу. Грамадзянскім шлюбам.

— А мы думалі, што ты разумны, — сказала Ленка і паглядзела на Кацю.

У апошні час яны моцна пасябравалі, і Юра аказаўся іх першай ахвярай.

Між іншым, Лёха Касцянчык — другой.

А я — трэцяй.

Пасля таго, як памерла мама, Каця часта бывала ў Ленкі. Разам абедалі, пасля садзіліся за ўрокі. І тады Лёха вырашыў, што яго ў іх кампаніі не хапае. Палічыў, што цяпер, пасля таго, як Пельмень з'ехаў, яго шансы павялічыліся. Што цяпер ён галоўны герой іх жыццяў. Пасля ўрокаў ён пільнаваў іх і ўвязваўся следам. Праводзіў да пад'езда. На наступны дзень — падняўся на паверх. А на трэці — заваліўся ў кватэру і сеў з імі абедаць. Апетыт у яго аказаўся адменным, і Ленка з Кацяй засталіся галоднымі. На чацвёрты дзень Ленка сказала яму, што ў іх з Кацяй сакрэтная размова, і супу сёння не будзе. На пяты не змаглі што-небудзь прыдумаць, проста не пусцілі яго да сябе. А на шосты — спусцілі з лесвіцы. Касцянчык хлопец не слабы, але паколькі яны ўдзвюх… Увогуле, усё ж ён і сам зразумеў, што трэба прызнаць паразу.

Што датычыць мяне… Не, я не навязваўся. Проста прапанаваў Ленцы: «Пойдзем у кіно», а яна сказала: «Не магу». Пасля прапанаваў пайсці ў Тэатр юнага гледача. А яна адказала, што ўсе спектаклі ўжо паглядзела. Што ж, у Опер-

ны тэатр яе запрашаць? Дык я і сам там ні разу не быў. Увогуле, разышліся, як у моры караблі.

## МНЕ СУМНА

Ну вось, да канца навучальнага года засталося зусім нічога.

Цікава, што я добра помню апошні дзень заняткаў у першым класе, але апошні дзень у другім, трэцім, чацвёртым, ды і пятым — не помню, учыстую забыўся. Відаць, мне так хацелася на канікулы, што і думаць болей ні пра што не мог, толькі б хутчэй празвінеў званок і — вось яна, свабода, ура!

А вось цяпер неяк не так. Чакаю, канешне ж, усе чакаюць, але… Неяк мне стала сумна. Я раптам падумаў, што канікулы — гэта рэпетыцыя будучага развітання. Канешне, гэта будзе не так і хутка, але будзе… І што вы на гэта скажаце?

Хаця, з другога боку, не так ужо ўсё і сумна. Вось бацька мой перазваньваецца са школьнымі і інстытуцкімі сябрамі, мама ўвогуле па гадзіне сядзіць у скайпе, нават бабуля перазваньваецца. Як усе разыдуцца — яна да тэлефона. Акрамя таго, тата раз на год ходзіць на сустрэчы аднакласнікаў.

Хаця, што гэта — сустрэчы раз на год, тэлефон, скайп…

— Нічога, — гаворыць бацька. — З’явяцца ў цябе новыя сябры… Усё будзе добра.

— Так, новыя. Але ж гэта здрада!

— Не, сынок, гэта жыццё.

Увогуле, сумаваў я ўвесь дзень. А раніцай Ленка сказала мне: «Каця запрашае ўвесь клас да сябе ў гонар заканчэння года. Трэба сабраць грошы на цукеркі…»

Мне стала весела і лёгка. Люблю, калі ўсе разам! Асабліва з такой нагоды, як пачатак канікул.

## У КАЦІ

Высветлілася, што мы Кацю зусім не ведалі.

У кватэры ў яе свой невялікі пакой, а ў ім стол, пара крэслаў і ложак. Ну і, канешне ж, кніжная шафа. Так. Ноўтбук. Вось, пэўна, і ўсё.

А яшчэ на сцяне над ложкам партрэт жанчыны.

— Гэта мая мама, — сказала Каця, калі ўсе сабраліся, і паслала маме паветраны пацалунак.

У пакойчык набіўся амаль увесь клас. Усяго ў нас дваццаць восем чалавек, сядзелі, хто дзе, болей на падлозе, а мы з Юрам залезлі пад ложак. Бацька Каці зазірнуў да нас.

— Ты маму пазнаёміла з сябрамі? — спытаў ён.

— Пазнаёміла.

— Добра, — сказаў ён і дадаў: — Мяне завуць Аляксей Іванавіч.

Юра хацеў было торт, які мы прынеслі, зацягнуць пад ложак, але дзяўчаты заўважылі і паднялі крык.

Папілі-паелі, а пасля Каця ўзяла гітару і ціха праспявала нейкую песню.



— Мы гэтай песні не ведаем, — сказалі дзяўчаты.

— Гэта мама спявала, — адказала Каця.

Калі спявала, адчыніліся дзверы і на парозе зноў паказаўся бацька Каці. Даслухаў да канца, сказаў:

— Добрая песня, — і тут заўважыў нас з Юрам пад ложкам. Крыху здзівіўся. — Як там, пылу хапае?

— Нармальна, — адказаў Юра.

— Дайце яму падушку, можа, ён там начаваць будзе, — сказаў Аляксей Іванавіч і пайшоў.

Увогуле, ён нам спадабаўся.

Пасля дзяўчаты надумалі танцаваць, але такому мастацтву мы з Юрам не навучаныя. Юра паспеў залезці далей пад ложак, а мяне выцягнулі за ногі.

…Калі разыходзіліся, я падумаў: «Які ў нас добры клас, і як добра, што мне нікуды не трэба пераязджаць».

Канікулы толькі пачаліся, а я вырашыў, што хопіць пісаць гэтыя ўспаміны, пара ісці да сяброў. Можа, пакідаем у карзіну мяч ці сходзім на возера. Выйшаў у двор, а там — шум-гам, дзятва носіцца, быццам баіцца не паспець ці спазніцца. І тут чую:

— Андрэй! Глядзі сюды!

Гляджу. І што ж я бачу? Юрка, Лёха, Каця і Ленка стаяць пад баскетбольнай карзінай. Загадкавыя — далей няма куды.

— Ты што, не бачыш?

Як не бачыць? Пельмень стаіць з імі і ўсміхаецца на ўсе трыццаць шэсць.

Што, можа, пераязджае назад? Было б здорава. Вось бы быў падарунак і школе, і нам. Дырэктару, класнай Ніне Леанідаўне, матэматыцы Кулі, фізкультурніку Гіры, нават начальніку ЖЭСа. Не, гэтаму начальніку — засмучэнне.

— Ура! — сказаў  я не так, каб ужо вельмі громка, але дзятва пачула мяне і адразу закрычала на ўвесь двор.

— Ура-а-а!

Дзятва любіць пакрычаць без усялякай на тое прычыны.

*Пераклад з рускай Алеся Карлюкевіча*

*Малюнкі Ганны Барысавец, гімназія № 1, Слуцк*



*Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса,*
*Што палясоўшчыкам служыў?*
*На Пуцявішчы, у Панаса,*
*Ён там ля лазні блізка жыў.*

# Крупеня ад антычных багоў

Тарасу аднойчы выпала трапіць на Парнас да антычных багоў. І дзіўна, але гэтыя багі, нібы звычайныя паны, знаёмыя табе па шматлікіх літаратурных творах. Ды і палясоўшчыка Тараса ты ведаеш. А вось апісанне страў, якія былі на баляванні багоў у паэме «Тарас на Парнасе», вартае, бадай, кулінарнай кнігі. І кулеш са скваркамі, і крупеня на малацэ, і жур сцюдзёны, і смажаная гусяціна, і бліны аўсяныя…

Добра пад'еўшы, зразумела, можна і песні спяваць, і ў скокі дацца, што панства з Парнаса і зрабіла. Не вытрымаў тут і Тарас, так танчыць пачаў, што і небажыхары дзіву даваліся. Аж есці захацеў! А як жа не пачаставаць такога выдатнага танцора?

*Кіўнуў Зевес — і мігам Геба*
*Крупені ў міску наліла*
*І добрую краюху хлеба,*
*Сказаўшы: еш, — мне падала.*
*Крупені смачнай пахлябаўшы,*
*Усіх падзякаваў багоў;*
*Кашэль за плечы прывязаўшы,*
*Сабраўся ўжо ісці дамоў.*

***Што спатрэбіцца:***
***жменька сушаных грыбоў,***
***цыбуліна,***
***паўморквы,***
***рэпка ці бульбіна,***
***паўшклянкі ячных круп,***
***2 ст. л. свінога тлушчу,***
***3—4 ст. л. смятаны ці вяршкоў,***
***чорны перац.***

Паспрабуем прыгатаваць ежу Вераніцынскіх багоў — крупеню. Вараць яе і з ячных круп, і з прасяных, і з аўсяных, дадаюць грыбы, мяса, бульбу, забельваюць смятанай ці вяршкамі.

***Як гатаваць:***

Крупы замочваем на ноч, грыбы — на 1—2 гадзіны ў халоднай вадзе. Потым крупы перакладаем у гаршчок, заліваем шклянкай вады, варым гадзіну на маленькім агні. Тым часам на свіным тлушчы смажым гародніну, нарэзаную маленькімі кубікамі, дадаем нарэзаныя грыбы, кмен, перакладаем у гаршчок з крупамі, солім. Забельваем смятанай ці вяршкамі, ставім гаршчок у гарачую духоўку на гадзіну. Перад падачай дадаем перцу.

***Літаратурны кулінар Улад Бярозкін***

# Бярозка

пазітыўнае мысленне



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава

Рэдакцыйная калегія:
Іна Віннік, Алесь Бадак, Валерый Гапееў, Кацярына Глухоўская, Алесь Дуброўскі, Алесь Карлюкевіч, Уладзімір Ліпскі, Уладзімір Матусевіч, Міхаіл Міронччык, Кацярына Мядзведзева, Вікторыя Мянанава, Вольга Праскаловіч, Наталля Пшанічная, Людміла Рублеўская, Вольга Русілка, Алена Руцкая, Таццяна Сівец, Раіса Сідарэнка, Святлана Сітнік, Аляксей Чарота, Таццяна Швед, Віктар Якжык.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.
Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю.С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А.У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
К. С. Голуб

Падпісана да друку 10.11.2015 г.
Фармат 60х84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 5,17.
Тыраж 1013 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Даны Цюперак, Мінская гімназія-каледж мастацтваў.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Якія два займеннікі псуюць дарогі?
**2.** Колькі будзе: 2 плюс 2 памножыць на 2?
**3.** Што можна знайсці ў пустой кішэні?
**4.** Ад яе нават дарослыя плачуць.
**5.** Калі бусел на адной назе стаіць?
**6.** Каго заўсёды называюць вялікім, хоць ён маленькі?
**7.** За што звычайна вучня з класа выганяюць?
**8.** Што будзе заўтра, а было ўчора?
**9.** Чорна-белае на 16 колах едзе. Што гэта?
**10.** Закончыце казку: «Тры дні і тры ночы скакаў Іван-царэвіч, пакуль…»

Пяцігадовы хлопчык падыходзіць да тэлефона, здымае трубку, кажа «Алё!» і чуе:
— Хлопчык, пакліч, калі ласка, маму альбо тату да тэлефона!
— Іх няма дома, — адказвае хлопчык.
— А хто ёсць?
— Толькі я і мая сястра.
— Ну, тады хоць сястру пакліч.
Праходзіць некалькі хвілін, хлопчык зноў бярэ трубку.
— Ды цяжкая яна вельмі! Ніяк не магу з калыскі выцягнуць!




***— Мама, а крапіва кусаецца?***
***— Так, сынок, балюча кусаецца?***
***— А чаму ж яна тады не брэша?***

# Падарунак ад Вожыка

Часопіс сатыры і гумару




*Мастак Аляксандр Каршакевіч*

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. Ямы (я-мы).
2. 6, бо першае дзеянне — множанне.
3. Дзірка.
4. Цыбуля.
5. Калі другую ўздыме.
6. Вялікі палец рукі.
7. За дзверы.
8. Сёння.
9. Зебра на ролікавых каньках.
10. Пакуль скакалку не адабралі.





# Я – МАСТАК

Новы інтэрактыўны аўтарскі праект

Для тых, хто ўмее маляваць, і для тых, хто не ўмее








***Майстар-класы, артыкулы пра каштоўнасці сусветнай культуры, знаёмствы з маладымі беларускімі мастакамі.***

***Каб намаляваць гістарычную асобу, трэба вывучыць яе біяграфію, ведаць, якую вопратку насілі ў яе эпоху, уяўляць прадметы, якія маглі выкарыстоўвацца, бачыць адпаведныя пейзажы… Такім чынам, праект звязаны з урокамі гісторыі.***



На старонках часопіса «Бярозка» з 2016-га



***Калі ў якасці ўяўнага вобраза выбраны літперсанаж, то гэта, несумненна, пераклікаецца з урокамі беларускай літаратуры, падпітвае цікавасць да больш глыбокага яе вывучэння.***



***Адбіткі рэчаіснасці, злепкі фантазіі, палотны вобразаў, вынікі працы душой і вачыма.***



ISSN 0320-7579

9 770320 757007 15011





